**У НУМАРЫ**

**«Капец»**
Не бюджэт для школы, а школы для бюджэту
*Стар.4*

**«Нашы бабулі з чужымі цыгарэтамі»**
Тэхналогія несанкцыянаванага вулічнага гандлю цыгарэтамі.
*Стар.5*

**«Дранікавае лобі»**
Мінскія ўлады не хочуць даваць зямлю пад будаўніцтва новых закусачных «Макдональдс». Ці ўдасца замяніць іх корчмамі і шынкамі?
*Стар.7*

**«Народ без футболу»**
Увесь свет глядзіць чэмпіянат свету па футболе, мы – не.
*Стар.11*

**«Погляд з нёманскіх берагоў»**
Гутарка з гарадзенскім мастаком-манументалістам Сяргеем Грыневічам.
*Стар.14*



www.svaboda.com

# свабода

№51 (278) 7 чэрвеня 2002 пятніца кошт свабодны падпісны індэкс 63478

**АБВЕСТКІ**



## БТ пакажа футбол

Беларускае тэлебачанне пачне трансляцыю матчаў чэмпіянату свету па футболе з Японіі і Паўднёвай Карэі 15 чэрвеня – з 1/8 фіналу. Пра гэта 3 чэрвеня ў праграме БТ «Панарама» паведаміў кіраўнік Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Ягор Рыбакоў. Ён запэўніў аматараў футболу ў тым, што, пачынаючы з гэтай стадыі розыгрышу, яны змогуць убачыць усе матчы чэмпіянату.

**БелаПАН**

# «Пагоня» ў судовай залі

*4–6 чэрвеня ў Гродне праціггваўся судовы працэс Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі – галоўнага рэдактара і карэспандэнта газеты «Пагоня». Іх абвінавачваюць у паклёпе на прэзідэнта РБ. 4 чэрвеня міліцыянты збілі людзей, якія прыйшлі на суд.*



У першыя два дні падсудныя падавалі суддзі Т. Клімавай хадайніцтвы; тая большасць з іх адхіляла. У аўторак за гадзіну да пачатку працэсу амаль усе месцы ў судовай залі былі занятыя. У сувязі з гэтым М. Маркевіч падаў у канцы мінулага месяца хадайніцтва, каб суддзя знайшла іншую залю – такую, каб у ёй маглі змясціцца ўсе ахвотныя. Адказу ён не дачакаўся, таму на судзе паўтарыў сваё хадайніцтва. Суддзя адмовілася яго задаволіць. Тады М.Маркевіч заявіў суддзі адвод, г. зн. недавер. Аднак і гэтае хадайніцтва задаволена не было.

Тым часам за дзвярыма судовай залі – у вестыбюлі – тыя, хто не трапіў на суд, пачалі гучна скандзіраваць: «Ганьба!» Яшчэ больш людзей чакала на вуліцы.

Заканчэнне на стар.3

**ВІЗІТЫ**

## Беларуская зброя супраць Азербайджану?

**Учора з двухдзённым афіцыйным візітам у Мінск прыехаў прэзідэнт Арменіі Роберт Качаран.**

У праграме візіту – сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам, беларуска-армянскія перамовы ў пашыраным складзе, падпісанне дакументаў аб пашырэнні двухбаковага супрацоўніцтва. Як адзначаюць афіцыйныя крыніцы, адна з асноўных тэмаў перамоваў – падпісанне пагаднення аб узаемных пастаўках узбраенняў і вайсковай тэхнікі.

На што Арменіі спатрэбіцца беларуская зброя? Не сакрэт, што самы нялюбы сусед Арменіі – гэта Азербайджан, з якім краіна дагэтуль не ўрэгулявала памежнае пытанне. Як вядома, на тэрыторыі Азербайджану знаходзіцца армянскі «анклаў» –Нагорна-Карабахская Рэспубліка. Гэта тэрыторыя з шчыльным пражываннем армянаў, якую Азербайджан уважае за сваю неад'емную частку. Арменію гэта не задавальняе. І вось ужо амаль 15 гадоў яна намагаецца – некалькі разоў даходзіла да сапраўднае вайны – далучыць Нагорны Карабах (і частку азербайджанскай тэрыторыі, якая адздяляе «анклаў») да Арменіі. На сённяшні дзень памежны канфлікт затух, але ў любы момант можа разгарэцца зноў.

Цяперашні прэзідэнт Арменіі Роберт Качаран – вядомы прыхільнік «вяртання» Нагорнага Карабаху. Ён сам не толькі нарадзіўся ў сталіцы НКР Сцепанакерце, але практычна ўсё жыццё аддаў Нагорнаму Карабаху. У 1992 годзе ён стаў прэм'ер-міністрам НКР, а з 1994 па 1997 год быў прэзідэнтам рэспублікі. Такім чынам, калі Арменія і будзе ўжываць зброю ў бліжэйшы час, дык толькі супраць суседняга Азербайджану. Відавочна, што гэтай зброяй будзе беларуская.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# АБСЕ: місія немагчымая

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

***Беларускаму Міністэрству замежных справаў удалося нарэшце давесці справу выціскання Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ да лагічнага заканчэння. У панядзелак дарадца па палітычных пытаннях і часова выконваючы абавязкі кіраўніка КНГ Эндру Карпентэр усё ж пакінуў Мінск. Яшчэ адна супрацоўніца групы Мэган Фітцджэральд з'язджае ў Вену.***

Пасля гэтага ў прадстаўніцтве АБСЕ застанецца толькі адна супрацоўніца, якая будзе выконваць выключна адміністрацыйную працу. Місія паралізаваная, і надзею на выздараўленне няма.

Нагадаем, што Кансультацыйна-назіральная група Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе пачала сваю працу ў Беларусі на пачатку 1998 году – пасля таго, як Сталы камітэт АБСЕ вырашыў дапамагчы нашай краіне ў фармаванні дэмакратычных інстытутаў.

Афіцыйны Мінск з цяжкім сэрцам пагадзіўся на прысутнасць чатырох экспертаў і кіраўніка групы. Існавалі спадзяванні, што гэта дапаможа міжнароднаму прызнанню новастворанага парламенту краіны – Нацыянальнага сходу, сабранага А. Лукашэнкам з аскепкаў Вярхоўнага Савету.

Аднак спадзяванні так і не спраўдзіліся. Замест папулярызацыі беларускай дзяржаўнай ідэалогіі для краінаў Захаду КНГ АБСЕ ўзялася не толькі павучаць чыноўнікаў і апазіцыю, як правільна будаваць цывілізаваную дзяржаву, але і пільна адсочваць усе парушэнні правоў чалавека – правоў, паважаць якія наша ўлада так і не навучылася.

Спачатку на гэта не звярталі ўвагі. Але калі міжнародныя інстытуцыі пачалі адмаўляцца ад супрацоўніцтва з Беларуссю, спасылаючыся на вынікі прававвога маніторынгу КНГ АБСЕ, афіцыйны Мінск адчуў небяспеку – і запатрабаваў згарнуць дзейнасць місіі і адклікаць яе супрацоўніцу.

Ад таго часу дзейнасць групы АБСЕ ў Мінску нагадвае лічылку пра дзесяць негрыцятаў: «Ханс-Георг Вік кіраваў місіяй АБСЕ, яго абвінавацілі ў падрыўной дзейнасці, у яго скончылася віза, і яго выкінулі з Беларусі... Мішэль Рывальэ замясціў Х.-Г. Віка, але ў яго скончылася віза, і ён мусіў з'ехаць з Мінску...

Заканчэнне на стар.3

**ЗАКОНЫ**

## Усе будуць шанаваць кірыліцу

5 чэрвеня Дзяржаўная Дума РФ прыняла ў першым чытанні дапаўненне ў закон «Аб мовах народаў Расійскай Федэрацыі». Законапраект абавязвае ўва ўсіх рэспубліках, якія ўваходзяць у Расійскую Федэрацыю, «выкарыстоўваць алфавіт толькі на аснове кірыліцы».

Законапраект распрацавалі дэпутаты розных фракцыяў, а прадставіў сябра фракцыі «Адзінства» Каадыр-аол Аляксеевіч Бічалдзей. На думку аўтараў, праект дазволіць «запоўніць прабел» у заканадаўстве, бо дагэтуль пытанні пісьмовай формы расейскае мовы і моваў рэспублік заставаліся неўрэгуляванымі. Законапраект падтрымалі 343 дэпутаты, 15 выказаліся супраць. Цяпер Татарстан, які ў 1999 годзе прыняў Закон аб пераходзе на лацініцу, апынуўся ў надзвычай няпростым становішчы.

**ТРАГЕДЫІ**

## Смяротнае сутыкненне

Яно здарылася апоўначы 4 чэрвеня ў Мінску на перакрыжаванні праспекта Машэрава і вуліцы Драздa. Два чалавекі загінулі, а яшчэ пяцёра былі дастаўленыя ў бальніцы.

Легкавік «Опель-Астра» ўрэзаўся ў бок джыпа «Нісан-Тырана», які перакуліўся на бок. «Опель» жа па датычнай зачапіў «Аўдзі-100», які рухаўся па той жа паласе. У выніку аварыі ў аўтамабілі «Нісан-Тырана» загінулі два пасажыры – мужчына і жанчына, што сядзелі з таго боку, у які ўдарыўся «Опель-Астра».

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

**КУРС НАЯЎНАГА ДАЛЯРА НА «ЧОРНЫМ РЫНКУ»**

**1795**

ЭНЕРГЕТЫКА

## Электрычнасць для народа

*Імпартныя пастаўкі аднавіліся, але кошты збіць не ўдалося*

**Беларусь аднавіла імпарт электраэнергіі. Адбылося гэта пасля дэманстрацыйнага перапынку ў спажыванні прадукту чужой энергетыкі ад 1 красавіка. Увесь гэты час мала хто з беларусаў ведаў, што канцэрн «Белэнерга» эксперыментуе з максімальнай нагрузкаю генератараў у Новалукомлі, Белаазёрску і на гарадскіх ЦЭЦ. Станкі працавалі і лямпачкі не гаслі толькі таму, што існуючая так званая закальцаваная сістэма транспартавання электрычнасці дазваляе аператыўна рэгуляваць яе патокі.**

Страйкаваць перад РАО ЕЭС дазваляў таксама спад вытворчага піку на прадпрыемствах і большая даўжыня светлага часу сутак. Прэзідэнт Лукашэнка змог нават абвесціць на ўвесь свет, што Беларусь мае амбіцыі выкупіць Ігналінскую АЭС альбо ўзяць у арэнду Смаленскую атамную. Аднак адвечны папулізм зноў спатрэбіўся для ўнутранага выкарыстання. А з 1 чэрвеня ў Беларусі планавалася павысіць тарыфы на электрычнасць для насельніцтва. Што, уласна, і здарылася без ніякага ад-кладу. І цяпер вядома, куды пойдуць мільярдныя сумы ад розніцы паміж ранейшым і новым коштамі. Ведамства Чубайса экспартавала адну кілават-гадзіну па 1,2 цэнта. А тая энергія, якая выпрацоўваецца ў Беларусі, даражэйшая (у залежнасці ад тыпу станцыі) на 50–100%.



З 1 чэрвеня кілават-гадзіна расійскай электрычнасці каштуе даражэй. Мінск наведаў прадстаўнік РАО ЕЭС і нагадаў, што па цяперашніх плацяжах і старых даўгах трэба плаціць своечасова. У кабінетах улады ізноў узыдуцца спрэчкі пра зніжкі тарыфаў у перакрыжаваным спосабе аплаты для прадпрыемстваў і падвышкі – для насельніцтва.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

## Мільён атрутных дозаў

Транзітныя шляхі праз Беларусь пры адкрытай мяжы на ўсходзе з Расіяй робяць нашу нацыю закладніцай у наступе наркаатруты. Паводле аператыўных зводак Міністэрства ўнутраных справаў, ужо сёлета спынена распаўсюджванне наркотыкаў у колькасці, якая дазваляла прыгатаваць 1 мільён 300 тысячаў аднаразовых дозаў. Калі мінулы год лічыўся рэкордным з апошніх дзесяці па навадненні краіны гераінам, то ў 2002 годзе яго канфіскавана ўжо на 1,2 кілаграма больш. У краіне спажыўцоў наркотыкаў нясупынна пашыраецца і кантынгент распаўсюднікаў. За 4 месяцы па артыкуле 328 частка 2 і 3 Крымінальнага кодэксу (незаконны абарот наркотыкаў) выкрытыя 719 злачынстваў – гэта ў 1,9 раза больш, чым летась.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

ФЭСТ

## *Нацыянальныя падворкі на гродзенскіх пляцах*

Каля 700 прадстаўнікоў 19-ці супольнасцяў возьмуць удзел у заключных мерапрыемствах IV Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур, які пачынаецца ў Гродне сёння, 7 чэрвеня.

Як паведаміў начальнік упраўлення ўстановаў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Тадэвуш Стружэцкі, упершыню ў рамках акцыі, якая праходзіла з 6 кастрычніка па 8 снежня 2001 году ў Гомелі, Брэсце, Мёрах, Мінску, Гродне, Магілёве і Маладзечне, прайшлі абласныя фестывалі нацыянальных культур. Журы на чале з народным артыстам Беларусі Міхасём Дрынеўскім азнаёмілася з творчасцю больш як 240 выканаўцаў і мастацкіх калектываў з 53-х паселішчаў. Прычым найбольшай прадстаўнічасцю вызначыліся нацыянальна-культурныя аб'яднанні ўкраінцаў, палякаў і чабрэяў, якія накіравалі сваіх выканаўцаў з 14, 8 і 7 населеных пунктаў адпаведна.

**Марат ГАРАВЫ**

ЗДАРЭННІ

### З міны рабілі кувалду...

Маладога працаўніка калгасу «Авангард» Бераставіцкага раёну, які не меў права доступу да электразварачнага апарату, забіла насмерць моцным выбухам. 19-гадовы навучэнец Бераставіцкага ПТВ-94 пагадзіўся на просьбу аднавяскоўца прымацаваць ручку да прадмета цыліндрычнай формы, каб вырабіць з яе кувалду. варта было хлопцу выбіць электродам іскру, як асляпляльны выбух страсянуў наваколле. Пацярпелы неўзабаве памёр.

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам НАШАЙ СВАБОДЫ следчы Бераставіцкай райпракуратуры Юрый Акладнікаў паведаміў, што ўжо сабраны матэрыял для экспертызы невядомага пакуль выбуховага прыстасавання; гэта мог быць снарад часоў Вялікай Айчыннай вайны. Следства па крымінальнай справе пра гібель навучэнца ПТВ не адмаўляе пакуль факту ўласнай неасцярожнасці.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

## Гармідар

Тэмай апошняй нарады ў Міністэрстве інфармацыі па сітуацыі ў холдынгу «Літаратура і мастацтва» сталі на гэты раз не ідэйныя і кадравыя пытанні, а эканамічныя ды бюракратычныя. Рэч у тым, што ў «ЛіМе» зараз поўны гармідар.

Па-першае, тут наблыталі з датамі ды фармулёўкамі ў шэрагу загадаў, па-другое, пад прадэкляраванымі пераўтварэннямі ў літаратурна-мастацкіх выданнях няма эканамічнага грунту. Папросту – няма грошай. Іх няма не толькі каб наладзіць бесперабойны выдавецкі працэс, а нават каб заплаціць людзям дапамогу па скарачэнні (сярэднямесячныя заробкі).

Між тым у рэдакцыйных бухгалтэрыях усё яшчэ працуюць органы праверкі. Пры гэтым ненармаваны графік працы супрацоўнікаў змянілі на сядзенне ў кабінетах ад званка да званка. Першымі днямі ў некаторых рэдакцыях гэтае правіла былі парушылі, за што атрымалі папярэджанні.

Што да творчага працэсу, то вельмі паказальная сітуацыя ў часопісе «Полымя», дзе на чарзе быў спараны выпуск № 5 і № 6. Але цяпер новае «пальмянскае» начальства разам з кіраўніцтвам холдынгу выраашыла № 5 і № 6 прапусціць і адразу выдаць падвойны выпуск № 7 і № 8. Былы галоўны рэдактар «Полымя» Сяргей Законнікаў кажа, што такога яшчэ ў гісторыі беларускай журналістыкі не было. Часопіс не выходзіў толькі ў вайну.

Яшчэ трохі ў такім духу, і можна будзе канстатаваць, што ідэя са стварэннем холдынгу літаратурна-мастацкіх выданняў пацярпела фіяска.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

### *Кнігі для сіротаў*

На працягу амаль 10 апошніх гадоў не папаўнялася новымі кнігамі бібліятэка Станькаўскай школы-інтэрнату для дзяцей-сіротаў Мінскай вобласці. У фондах яе адсутнічалі нават найбольш папулярныя казкі і праграмная літаратура. Сітуацыю выправіў Беларускі дзіцячы фонд. Яго дабрачынная акцыя «Дзіцячая бібліятэка» дазволіла перадаць у Станькава 500 кніг. Хатнія бібліятэчкі атрымалі таксама дзіцячыя дамы сямейнага тыпу Янкоўскіх і Міхалёвых. Зараз камплектуюцца кнігазборы для Радашковіцкай, Валожынскай, Стаўбцоўскай, Ястрамбельскай школаў-інтэрнатаў. Яшчэ 6,5 тысяч экземпляраў кніг знойдуць сваіх новых чытачоў. Гэты скарб літаратуры ўдалося сабраць за першыя месяцы пасля таго, як Беларускі дзіцячы фонд звярнуўся да насельніцтва, прадпрыемстваў і ўстановаў з заклікам далучыцца да збору літаратуры для дзяцей-сіротаў. Дабрачынная акцыя будзе доўжыцца да снежня 2002 году. Кнігі прымаюцца кожны аўторак і пятніцу па адрасе: Мінск, праспект Скарыны, 31.

**Галіна БАРАВАЯ**

ЭКАЛОГІЯ

### Новы заказнік

На тэрыторыі Гродзенскай вобласці, дзе ёсць лясы Белавежскай і Налібоцкай пушчаў, ствараецца яшчэ адзін рэспубліканскі ландшафтны заказнік плошчай 15,2 тысячы гектараў. У навуковым і тэхнічным абгрунтаванні ён атрымаў назву «Ліпічанская пушча» і сваімі межамі заходзіць на тэрыторыю Шчучынскага, Мастоўскага і Дзятлаўскага раёнаў. Тут разнастайны жывёльны свет, унікальная прырода, выспы лекавых раслінаў.

Паводле дадзеных Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, агульная плошча тэрыторый пад асаблівай аховай складае 1 574 000 гектараў, альбо 7,6% тэрыторыі Беларусі. У краіне 94 заказнікі рэспубліканскай значнасці і 468 – мясцовай.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

КАРЫСНЫЯ ВЫКАПНІ

### Новыя землі пад шахты

Зямельныя плошчы некалькіх калгасаў у Чырвонаслабадскім раёне на Міншчыне па рашэнні аблсавета адышлі пад новае будаўніцтва вытворчага аб'яднання «Беларуськалій». Тэрмінам на 25 гадоў пад новыя шахты перададзеныя 13 318 гектараў. Тут ужо з'явіліся буравік і яшчэ да ўборкі пасаджанага яны знімуць урадлівы слой над падземнымі залежамі так званага чырвонага золата Беларусі.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

ВАЙСКОВЫЯ ВУЧЭННІ



Дэльтаплан – сучаснае ўзбраенне разведчыкаў, выпрабаванае на вайсковых вучэннях «Бярэзіна-2002»

КУЛЬТУРА

### *Белдзяржфілармонія стала на рамонт*

З 1 чэрвеня на нявызначаны тэрмін зачынены будынак Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Летась у філармоніі адбылося надзвычайнае здарэнне – столь канцэртнай залі пачала абвальвацца, калі рэпетаваў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Пасля гэтага было прынятае распараджэнне прэм'ер-міністра Беларусі «Аб капітальным рамонце будынка Белдзяржфілармоніі». Часовая эксплуатацыя будынка была дазволена да 1 чэрвеня гэтага году. Колькі часу зойме капітальны рамонт і хто дасць на яго грошы, пакуль невядома.



# «Пагоня» ў судовай залі

*Заканчэньне, пачатак на стар. 1*

Дзверы Ленінскага раённага суду вартавалі міліцыянты, якія не пускалі нікога ўсярэдзіну. Аднак публіка – некалькі дзесяткаў чалавек – націснула і прарвалася ўсярэдзіну будынка.

– Нас не пускалі, пхалі і білі, – расказала карэспандэнтцы інтэрнэт-выдання *www.pahonia.com* гарадзенка Ірына Салей, якая была сведкай эксцэсу. – Нават калі мы прабіліся на лесвіцу, міліцыянты беглі за намі і збівалі! Фашысты! Як можна так паводзіць сябе з людзьмі!

У бойцы разбілі шкло ўваходных дзвярэй суду. Аляксей Маркевіч, брат Міколы Маркевіча, быў ім паранены. Да 22-гадовай Святланы Нех, якую міліцыянт моцна ўдарыў па галаве, выклікалі «хуткую дапамогу» ў залю суду.



Урэшце публіка апынулася ў судовай залі. Усе абмяркоўвалі «штурм» і тое, што некалькі чалавек атрымалі ўдары ад міліцыянтаў.

У сераду паседжанне было прызначана на 10 гадзін раніцы. Дзверы суду адчыніліся ў 9 гадзін. Аднак у судовай залі ўжо сядзелі 15 натрэніраваных мужчын у цывільным, якія займалі амаль палову месцаў для гледачоў. Астатнія месцы ўдалося заняць журналістам, якіх міліцыянты ўсяляк стараліся не пускаць у будынак. На вуліцы сабраліся дзесяткі людзей. Аднак будынак ахоўвалі амонаўцы. М. Маркевіч назваў суд «адкрытым працэсам пры зачыненых дзвярах», бо суддзя не аднойчы паўтарала, што працэс адкрыты. У гэты дзень падсудныя заявілі хадайніцтвы, каб ім было дазволена мець грамадскіх прадстаўнікоў. М.Маркевіч паўтарыў сваё хадайніцтва аб прадстаўленні большай залі. Суддзя адмовіла. Тады аб адводзе суддзі заявіў П. Мажэйка. Гэтае хадайніцтва Т. Клімава адмовілася задаволіць таксама.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# АБСЕ: місія немагчымая

*Заканчэньне, пачатак на стар. 1*

На Эндру Карпентэра ўсклалі абавязкі часовага кіраўніка КНГ АБСЕ, але і яго ўязная віза скончылася 1 чэрвеня, і цяпер ён апынуўся па-за межамі Беларусі... Мэган Фітцджэральд і Аліна Жасан засталіся ў місіі АБСЕ ў Мінску ўдзвюх... дзейны старшыня АБСЕ адклікаў Мэган Фітцджэральд для кансультацыяў у Вену, і ў місіі засталася працаваць адна супрацоўніца – Аліна Жасан... місія разваленая, яе больш няма»... Дадамо, што новы кіраўнік КНГ АБСЕ, які мае статус адмысловага пасланніка, – Эбергард Хайкен – вымушаны заставацца ў Вене, бо яму не дазваляюць уехаць у Беларусь.

У аўторак, 4 чэрвеня, Партугалія як старшыня АБСЕ выступіла з афіцыйнай заявай наконт Беларусі. У ёй адзначаецца, што цяперашняя пазіцыя беларускіх уладаў не спрыяе жаданай нармалізацыі стасункаў паміж Беларуссю і АБСЕ, і таму дзейны старшыня лічыць гэтую пазіцыю непрымальнай. Кіраўніцтву Беларусі нагадваюць, што яно мусіць прытрымлівацца абавязанняў, узятых імі на сябе пры ўваходзе ў склад АБСЕ.




**Міністр замежных справаў Партугаліі Антоніо Марціньш да Крус**

Міністр замежных справаў Партугаліі Антоніо Марціньш да Крус як дзейны старшыня АБСЕ заявіў, што праца Кансультацыйна-назіральнай групы была ключавой для супрацоўніцтва АБСЕ з Беларуссю, і пасля фактычнай высылкі Э. Карпентэра місія не ў стане выконваць пастаўленыя перад ёю задачы. Таму ён вырашыў адклікаць апошнюю супрацоўніцу місіі па знешніх сувязях Мэган Фітцджэральд у Вену для кансультацыяў.

У гэты ж дзень міністэрства замежных справаў Францыі заклікала беларускія ўлады змяніць сваё рашэнне аб фактычным спыненні працы місіі АБСЕ ў Мінску. Пра гэта заявіў намеснік афіцыйнага прадстаўніка МЗС Бернар Валеро. Па ягоных словах, адмова прадоўжыць візу Э. Карпентэру «кампраметуе місію».

У сераду, 5 чэрвеня, амбасада Вялікабрытаніі распаўсюдзіла заяву Старшынства Еўрапейскага Саюзу, датычную адносінаў паміж Рэспублікай Беларусь і АБСЕ. «Еўрапейскі Саюз выказвае глыбокае шкадаванне наконт рашэння беларускіх уладаў адмовіць у працягу візы выканаўцы абавязкаў кіраўніка місіі Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску спадару Эндру Карпентэру. Еўрапейскі Саюз разглядае дадзенае рашэнне як негатыўнае; яно лішні раз паказвае на адсутнасць на цяперашні момант пазітыўнага стаўлення з боку беларускіх уладаў, нягледзячы на намаганні дзеючага партугальскага старшынства ў АБСЕ, накіраваныя на аднаўленне супрацоўніцтва паміж беларускім урадам і КНГ АБСЕ ў Мінску. Еўрапейскі Саюз падкрэслівае надзвычайную важнасць ролі АБСЕ для дэмакратычнай кансалідацыі Беларусі і яе эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу. У гэтай сувязі ЕС настойліва заклікае беларускія ўлады прыняць новага кіраўніка Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ, а таксама зняць перашкоды для нармальнага развіцця адносін паміж Рэспублікай Беларусь і АБСЕ».

А ўчора ў Вене мелася прайсці надзвычайная прэс-канферэнцыя па Беларусі. На ёй кіраўнік Сталае рады АБСЕ амбасадар Жоао дэ Ліма Піментэль каментаваў сітуацыю, што склалася пасля адмовы афіцыйнага Мінску падоўжыць тэрмін дзеяння візы часоваму кіраўніку місіі. На мерапрыемстве планавалася прысутнасць Эберхарда Хайкена, в. а. кіраўніка КНГ АБСЕ ў Беларусі Мішэля Рывальe і Эндру Карпентэра. На момант здачы нумару ў друк яе вынікі былі яшчэ невядомыя.

## АПЫТАННЕ

**– Якія, на Вашую думку, прафесіі ў наш час варта выбіраць выпускнікам школаў?**

**Наталля, працуе ў доме састарэлых:**
– У прынцыпе, камп'ютэры – гэта будучыня. Што зараз найбольш запатрабаванае ў Беларусі, сказаць не магу, бо жыву ў Нямеччыне. Там асабліва ўжо папулярных прафесій няма, здаецца. Мой сын, напрыклад, на камп'ютэршчыка вучыцца. Дачка – медык, праўда, яна яшчэ ў Саюзе вывучылася.





**Валодзя, бомж:**
– У нашай краіне ніякія прафесіі не патрэбныя, у нас тут вэрхал ды бяспраўе.



**Уладзімір Аляксандравіч, пенсіянер:**
– Хоць бы пракарміць і захаваць працу тым, хто ў нас ужо працуе на прадпрыемствах. Мая дачка з'ехала ў Гамбург, скончыўшы ў Мінску наргас і папрацаваўшы ў гандлёвым доме «На Нямізе».





**Аляксандр, вольны будаўнік:**
– Як на мой розум, дык трэба паступаць у нейкую сапраўды беларускую навучальную ўстанову, але ж яе няма. Што да прафесій, то паколькі я сам будаўнік, то параіў бы моладзі выбіраць будаўнічыя спецыяльнасці. І праца будзе, і грошы будуць.



**Валерый Макаравіч, пенсіянер:**
– Наогул цяжка сказаць, якія прафесіі на сённяшні дзень лепш выбраць. Але мне здаецца, трэба выбіраць тыя, якія ў будучым будуць перспектыўнымі. У першую чаргу, трэба абараняць Айчыну. Гэтая прафесія заўсёды будзе патрэбнай. У той жа час, відаць, трэба падымаць эканоміку. Значыць, перспектыўныя прафесіі эканаміста, юрыста, усякія фінансавыя работнікі.





**Алег Паўлавіч, пенсіянер:**
– Самыя модныя прафесіі зараз, у наш час, – юрыст, эканаміст, прадавец, камерсант. На жаль, маладыя людзі паступова адыходзяць ад прафесіяў, дзе трэба працаваць, працаваць па-сур'ёзнаму, вырабляць тыя тавары, якіх не хапае.



**Фёдар Анатольевіч, інжынер:**
– Ну, відаць, што фінансавыя інстытуты. Таму што ў цяперашніх умовах трэба вучыцца выжываць, а значыць, трэба мець адпаведную падрыхтоўку.





**Вячаслаў, праграміст:**
– Адназначна – праграмісты. Праўда, не ўпэўнены, што гэта надоўга.

**Апытанне праводзілі Кірыла ПАЗЬНЯК і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

# *Палякі пратэстуюць супраць перасьледу «Пагоні»*

Трэцяга чэрвеня ў Варшаве каля будынку беларускай амбасады прайшоў пікет у знак пратэсту супраць крымінальнага пераследу журналістаў газеты «Пагоня» Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі. Акцыю ладзілі левыя моладзевыя арганізацыі і прадстаўнікі беларускай меншасці ў Польшчы. Удзельнікі пікету трымалі ў руках транспаранты на польскай і беларускай мовах: «Разам за «Пагоню», «Свабоду слова для «Пагоні», «Спыніць палітычныя рэпрэсіі». Прадстаўнік беларускага пасольства, які выйшаў да пікетоўцаў, адмовіўся прыняць петыцыю, у якой удзельнікі пікету патрабавалі спынення пераследу незалежных журналістаў. Беларускі чыноўнік пры гэтым патлумачыў, што ён не ўпаўнаважаны прымаць дакументы. У гэты ж дзень петыцыя была накіравана ў пасольства поштаю.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

# Капец

## Школы будуць зарабляць грошы для бюджэту

Сяргей НІКАЛЮК

*Хто не ведае папулярнага прэзідэнцкага выслоўя: «Страцім настаўніка – капец, будзем хадзіць п'яныя і дурныя»? Вядома, думка цвярозая, хоць і крыху каструбаватая па форме. Але гаворка пойдзе не пра форму і нават не пра тое, што здабудзе грамадства, страціўшы настаўніка. Гаворка пойдзе пра страты саміх настаўнікаў.*

Гадамі прывучаныя жыць па званках, педагогі неяк не заўважылі ціхага дзынкання, якое папярэджвала пра надыход эканамічнага краху. Улада абяцала кожнаму настаўніку па 100 даляраў. Улада абяцанне выканала. Якой цаною? Працаўнікоў указкі і крэйды гэта не цікавіла. Пытанне пра цану дармовай адукацыі было пастаўлена рубам на нарадзе дырэктараў мінскіх школаў 30 траўня. Цана аказалася не круглая – 9,2 мільярда беларускіх рублёў. Якраз гэтулькі павінны ўнесці школы ў гарадскі бюджэт у будучым навучальным годзе. Да кожнай школы лічбы яшчэ не даведзеныя, але праблемаў з гэтым не будзе. Методыка, як даводзяць паказчыкі, адпрацавана даўно. Нашмат больш складана з методыкай, як дзяржаўным школам зарабляць грошы ўва ўмовах абавязковай бясплатнай адукацыі. Тут няма не толькі гарадскога, але і сусветнага вопыту.

У якасці першага кроку Камітэт па адукацыі і справах моладзі Мінгарвыканкаму прапанаваў лічыць кожнага дырэктара школы менеджэрам. Ці мяняюць пры гэтым таблічкі на дзвярах кабінетаў, пакуль не вырашана. Другі крок прадугледжвае скарачэнне школьнай вертыкалі ўлады. Нагадаем: кіраўнічая структура школы, якая сфармавалася цягам дзесяцігоддзяў, складаецца з дырэктара, завуча, загадчыка гаспадаркі, прыбіральшчыцы і вахцёра. Каго канкрэтна скароцяць, нарада не вырашыла. У якасці альтэрнатывы прапаноўвалася сумяшчаць прафесіі. Наколькі больш эфектыўна будзе кіраваць школаю звязка «завуч – прыбіральшчыца» ў параўнанні са звязкаю «дырэктар – вахцёр» (дакладней, «дырэктар-менеджэр – вахцёр»), спецыялістам камітэту яшчэ трэба ўдакладніць.

«У бюджэце няма грошай. У бюджэце няма грошай», – як заклінанне паўтаралася на нарадзе кожныя дзесяць хвілін. «Паўтарэнне – маці вучэння», не дырэктарам школ гэта тлумачыць. Ну, а хто тады бацька? Бацька эканамічнай палітыкі, якая спустошыла гарадскую казну, усім прысутным добра вядомы. Таму сход перайшоў да абмеркавання дэталяў.

Класічны прынцып усушкі і ўтрускі знайшоў свой працяг. Прынята рашэнне зачыніць мінскія школы з колькасцю вучняў меней за 600 чалавек, класы ўзбуйніць, давёўшы колькасць вучняў да сарака. Што яшчэ? Яшчэ ёсць настаўніцкая стаўка. Каб яе атрымаць, неабходна адпрацоўваць 18 гадзін на тыдзень. Не, стаўку ніхто чапаць не будзе. Але чаму 18 гадзін? Ёсць і другія лічбы. Напрыклад, 30. Круглая лічба, і вельмі зручна шмат на што дзеліцца.


Фота В.Шлапака

Але задача стаіць не проста эканоміць. Неабходна ***зарабляць!*** Згаданыя вышэй 9,2 мільярда павінны быць ***пералічаны*** ў гарадскі бюджэт. Што могуць прапанаваць школы? Здаваць вольныя плошчы ў арэнду? Узаконіць рэпетытарства? Даваць дзіцячыя канцэрты? Праўда, за арэнду можна атрымаць рэальныя грошы. Асабліва ў школах, што размешчаны ў цэнтры гораду. Не паспела высахнуць чарніла на рашэнні «выгнаць мянялаў» з храмаў здароўя, як чыноўнікі з паралельнага міністэрства прапаноўваюць завабліваць бізнесменаў у храмы ведаў. Дзе логіка? Пытанне рытарычнае. Але задача перад новаспечанымі менеджэрамі ад табліц Мендзялеева і Брадзіса пастаўлена. Вынікі нам неўзабаве даложаць шматлікія органы дзяржаўнага кантролю.

Яны не стануць браць у разлік ні «новаспечанасць» менеджэраў, ні адсутнасць заканадаўчае базы школьнага прадпрымальніцтва. У іх свая праца.

Якая з усяго сказанага вынікае высноўа? Цягам многіх гадоў настаўнікі не проста складалі касцяк маўклівай бальшыні, на якую абапіралася ўлада, – яны актыўна падтрымлівалі яе. Але больш у бюджэце няма грошай. Няма і не будзе.

# Яйка вучыць курыцу?

## Праблема бацькоў і дзяцей у беларускай апазіцыі

*16 чэрвеня пройдзе сойм Маладога Фронту. Пра стан і настроі ў гэтай арганізацыі ў паслявыбарчы перыяд, а таксама пра тое, што рабіць, разважае ейны старшыня Павел Севярынец у гутарцы з карэспандэнтам НАШАЙ СВАБОДЫ*

**– Што такое Малады Фронт сёння, і ці ёсць істотная розніца ў параўнанні з тым, што ён уяўляў сабой колькі гадоў таму?**

– Усё ж рухаецца і развіваецца, а Малады Фронт увогуле эвалюцыянуе – ад вулічных байцоў да шырокага шматвобразнага руху. На дадзены момант Малады Фронт, дзе 1 500 актывістаў і блізу 10 000 чалавек спісам, ёсць найбуйнейшым маладзёжным рухам у Беларусі. Мы вызнаем нацыянальную ідэю на хрысціянскіх прынцыпах. Само кшталтаванне гэтай ідэалогіі і ёсць адным з галоўных адрозненняў ад колішняга стыхійнага МФ, лозунгам якога было «Далоў Луку!», «Незалежнасць!», а праграмай – «спытайце ў БНФ».

**– Ва ўмовах відочнай палітычнай апатыі, якая апошнім часам ахінула беларусаў, новых маладых людзей далучаецца да вас наўрад ці столькі ж, колькі і раней?**

– Звычайна людзі падхлынаюць пад масавыя акцыі. Апошняя вялікая хваля была пад выбары і падчас акцыі «Беларусь – у Еўропу!». Крыху змяняецца геаграфічны баланс: раней Мінск складаў ці не палову арганізацыі, а зараз ужо да трох чвэрцяў усяго МФ прадстаўляюць рэгіёны.

**– Які сярэдні партрэт маладафронтаўца?**

– Гэта малады чалавек прыблізна ў веку ад 18 да 20 гадоў, студэнт першага курса ВНУ, школьнік старэйшых класаў, можа быць, працоўны ці службоўца. Як ні дзіўна, больш у нас не гуманітарыяў, а тэхнароў. Асноўныя сацыяльныя групы – нефармалы, студэнты, дзеці творчай інтэлігенцыі, усё болей сярод нас становіцца вернікаў розных хрысціянскіх канфесій.

**– Вы кажаце, што Малады Фронт – самы шматколькасны, а як жа БПСМ?**

– Гаворка вядзецца пра маладзёжныя арганізацыі, а БПСМ – гэта структура ўлады. Мы іх у разлік не бярэм. Паводле спісавага складу яны пераўзыходзяць нас. Што да штатных адзінак, то гэта 1 100 чалавек, якія атрымліваюць заробак і ледзь-ледзь варушацца.

**– Вы мяркуеце, што Малады Фронт мабільней за БПСМ?**

– Думаю, што так. Тры мільёны даляраў на год, падтрымка дзяржаўнай прэсы, наклады якой у некалькі разоў большыя, чым у незалежнай, тут можна было б, сапраўды, апанаваць усю краіну. Але БПСМ не мае падтрымкі ў моладзі, бо практычна не мае ідэяў. Мы думалі, што яны будуць канкурэнтамі, і можна будзе дзейнічаць ад супрацьўнага. БПСМ – структура гніення.

**– Такім чынам, БПСМ выконвае функцыю не ангажаванага палітычнага выхавання моладзі, а наадварот, апалітызацыі?**

– Менавіта апалітызацыі і разлажэння. Але колькі Аляксандр Рыгоравіч ні браўся за моладзь, не атрымалася аніводнага ўдалага праекту. БПСМ – яскравы прыклад. БПСМ – правальная справа, і Лукашэнка, трымаючыся за іх, у рэшце рэшт, поўнасцю прайграе моладзь.



**– Як вы мяркуеце, ці прыносіць яшчэ плён так званая вулічная дэмакратыя?**

– Гэта сродак, а не самамэта. Думаю, што ў пэўны час, у пэўнай сітуацыі беларускі незалежніцкі рух якраз праз вуліцу можа вырашыць праблему Лукашэнкі. Вулічныя акцыі – важная форма барацьбы. Яны з'яўляюцца індыкатарам стану апазіцыі.

**– Многім беларусам аднастайнасць беларускага палітычнага працэсу прыелася. Ці не варта было б палітыкам узяць вакацыі на годзік, даць народу адпачыць, а за гэты час прыдумаць штонебудзь навюткае і эфектыўнае?**

– Магчыма. Таму Малады Фронт ставіць на сістэмную працу на месцах, на розныя кірункі дзейнасці ад палітыкі да музыкі, на аб'яднанне маладзёжных сілаў пад лозунгам «Люблю Беларусь!». Гэта своеасаблівая нацыянальная ідэя практычна для кожнага чалавека, выражаная ў двух словах. Мы стараемся працаваць ушчыльную з людзьмі, прапаноўваць нешта і для творцы, і для камп'ютэршчыка, і для аматара піва. У гэтым адрозненне ад адміністрацыйнай беларусізацыі 1992–1993 гадоў.

**– «Люблю Беларусь!» – ці не занадта агульнае месца?**

– Гэта лозунг для ўсёй Беларусі. Для пенсіянера, для рабочай моладзі, для вясковай будзе свая інтэрпрэтацыя гэтага лозунгу. Наогул «Люблю Беларусь» – гэта не столькі дэвіз, колькі аздоба, акцэнт вестак. Напрыклад: мы выходзім на вуліцу, мы займаемся палітыкай, бо мы любім Беларусь. Усім нясцерпнай стала і нянавісць, і страх, і апатыя, а любоў да Беларусі – грунтоўна і на вякі.

**– Якая мэта маючага адбыцца неўзабаве сойму МФ?**

– Гэта спосаб даць вестку ўсяму грамадству, бо ад моладзі чакаюць не толькі рашучых крокаў, але таксама і ідэяў. І мы іх дамо, бо мы вырашаем, якой быць заўтра Беларусі. Малады Фронт і ёсць тым асяродкам, які фармуе новую Беларусь. Асноўным вынікам сойму мусіць стаць прыняцце стратэгіі на 2 бліжэйшыя гады, такой стратэгіі, якая б дазволіла нам падчас наступных выбараў, рэферэндумаў і стыхійных выступаў узняць усю краіну.

**– Ці будзе больш пэўна вызначацца мадэль стасункаў паміж Маладым Фронтам і БНФ?**

– Зараз у нас рабочыя стасункі. Але МФ развіваўся, а БНФ таптаўся на месцы, у выніку паміж намі ўтварылася досыць вялікая дыстанцыя. Аднак жа многія з нас – сябры Фронту, і мы не збіраемся аддаляцца ад яго. Мы збіраемся пераўтварыць БНФ. Так, атрымліваецца, што не бацькі павучаюць дзяцей, а дзеці намагаюцца пераўтварыць бацькоў. Старэйшае пакаленне апазіцыі разгубленае, слабое і раз'яднанае, без веры і волі. Моладзь намацнейшая. Падчас выбараў відаць было збольшага моладзь. У рэшце рэшт, гэта натуральная хада падзеяў – прыйшла чарга маладых.

**Гутарыў Кірыла ПАЗЬНЯК**

 



# Нашы бабулі з чужымі цыгарэтамі

Аксана ЯНОЎСКАЯ

***Несанкцыянаваны гандаль – адміністрацыйнае праваапрушэнне. Але не ўсё так проста. Калі міліцыянты затрымліваюць бабульку з цыгарэтамі, большасць мінакоў гатова ёй паспачуваць.***



Фота В.Шлапака

### Кантынгент гандлярак

Нельга параўноўваць бабулек, якія гандлююць кропам з свайго гароду, і тых, што гандлююць цыгарэтамі. Першых і сапраўды можна пашкадаваць, калі іх забіраюць у пастарунак. Адміністрацыйны штраф за правапарушэнне не перавышае дзвюх мінімальных базавых велічынь. На сваёй гароднiне яны столькі не заробяць. А вось бабулькі, што гандлююць цыгарэтамі, ніякага жалю не выклікаюць. Яны займаюцца бізнесам, які падрывае не толькі эканоміку нашай дзяржавы, але і здароўе падлеткаў. Калі ў краме і нават камерцыйным кіёску 12-гадовай дзяўчыне не прададуць цыгарэтаў, баючыся пазбавіцца ліцэнзіі, то ў бабулек няма такіх абмежаванняў.

Вядома, што нашы пенсіянеры небагатыя людзі. Але ад беднасці гандлююць пятрушкай. Цыгарэтныя ж бабулькі найчасцей зарабляюць грошы на бязбеднае жыццё сваім унукам.

За «змену» бабулька-цыгарэтчыца зарабляе прыкладна 10 тысяч рублёў, а даходы яе «наймальніка» падлічыць цяжка, бо ён «курыруе» некалькі гандлярак.

Грошай, якіх не далічваецца дзяржава ад нясплачаных акцызаў і іншых падаткаў, магло б хапіць на падвышэнне пенсій не адной сотні бабулек.

### Тэхналогія цыгарэтнага гандлю

Бабулькі, нібыта прагульваючыся, ацэньваюць учэпістым вокам мінакоў і так даверліва прапаноўваюць: «Цыгарэты, калі ласка». Пакуль пройдзеш па «іх тэрыторыі», такіх прапановаў паступіць 5–6. Немагчыма зразумець гэтую псіхалогію: калі я адмовілася купляць цыгарэты ў адной, то чаму куплю ў іншай?

Гандаль цыгарэтамі носіць, безумоўна, арганізаваны характар. Па-першае, бабулек «з вуліцы» туды не бяруць, усе яны прыходзяць па рэкамендацыі. Па-другое, недалёка ад бабулек знаходзіцца «кладаўшчык», у якога яны паступова дабіраюць тавар.

### Парушальнікі бываюць розныя

Міліцыя грамадскай бяспекі сістэматычна праводзіць рэйды па імправізаваных «гандлёвых кропках». Паколькі кантынгент гандлярак сталы, то яны ўжо ведаюць у твар амаль усіх міліцыянтаў, нават калі тыя «замаскіруюцца» ў цывільнае.

– Свой занятак жанчыны тлумачаць нізкім памерам пенсіі, – кажа начальнік міліцыі грамадскай бяспекі і спецыяльнай міліцыі Савецкага РУУС падпалкоўнік Ігар Мазынскі. – Шмат пенсіянераў вымушаны працаваць, і яны знаходзяць такую працу, каб не канфліктаваць з законам. Паглядзіце, колькі пенсіянераў разносяць па офісах часопісы – гэта ж вельмі цяжкая праца. А што да гандлярак, то па-чалавечы, зразумела, я больш сімпатызую жанчыне, якая, нават у забароненым месцы, прадае клубніцы з свайго гарода. Але я – міліцыянер і павінен сачыць за выкананнем закону. Таму і такіх гандляроў мы вымушаны затрымліваць. Іншая рэч – пакаранне. Калі чалавек прыстойна сябе паводзіць, то можна абмежавацца і прафілактычнай гутаркай. Мы ж разумеем, што штраф – 20 тысяч рублёў – вялікія грошы для пенсіянера. Сярод жанчын, якія гандлююць цыгарэтамі і прамысловымі таварамі, сустракаюцца такія, што дзеля гэтага бізнесу звольніліся з працы.

*– Думаю, вы пагодзіцеся са мною, што карцінка, калі міліцыянты вядуць у пастарунак жанчыну, не вельмі прыемная для людзей.*

– Нам, ведаеце, таксама не вельмі прыемна змагацца з жанчынамі. Тым больш што сярод «цыгарэтчыц» ёсць дзве такія акторкі… Як толькі заўважаць міліцыянта, дык адразу – плясь на асфальт. Сяржант ці афіцэр вымушаны яе паднімаць. Жанчына пачынае лямантаваць: «Людзі, дапамажыце, міліцыя б'е». І хто не бачыў пачатку «карцінкі», зразумела, шкадуе жанчын. У нашым грамадстве пануе думка, што ва ўсіх бедах найперш вінавата міліцыя. А калі мы зловім алкаголікаў, што «сабралі» ўраджай на чужых лецішчах або прывезлі ў Мінск забруджаныя радыенуклідамі ягады ці грыбы, гэтага ніхто не заўважае.

### Жыцця ад іх няма…

Падпалкоўніку Ігару Мазынскаму далажылі, што даставілі дзвюх жанчын-цыгарэтчыц. Адна з іх наадрэз адмовілася размаўляць з карэспандэнткай недзяржаўнай газеты, а другая, наадварот, пачала жаліцца:

– Паглядзіце на гэтых дужых хлопцаў: жыцця ад іх няма ніякага, кожны дзень ходзяць. Я ж ведаю, што будзе. Зараз складуць пратакол, потым суд – і забяруць у даход дзяржавы цыгарэты. З дзяржавай нічога не зробіцца, а вось як людзям жыць? Я ўжо старая, мне што… А ўнучку ж трэба апрануць, абуць, даць адукацыю і каб усё не горай, як у людзей.

*– А праўда, што ад міліцыянтаў можна адкупіцца, калі прэзентаваць ім блок цыгарэт?*

– Мусіць, дзе і можна. Але гэтыя, што тут ходзяць, надта фанабэрыстыя: дэманстратыўна паляць цыгарэты з пачкаў з акцызнымі маркамі. Дык, можа, вы папросіце, каб нас адпусцілі?

*– Не, не папрашу. Па-першае, гэта бессэнсоўна. Па-другое, мне вельмі не падабаецца і ваш занятак, і вашы нахабныя паводзіны.*

– Сказала б ты гэта на вуліцы, мы б адказалі. А тут… Які толк ад вашых газет, калі вы не хочаце паспачуваць простаму чалавеку?

ГРАМАДСТВА

# У турмах чакаюць амністыі

***У нашай краіне рыхтуецца чарговая амністыя зняволеных. Галоўны матыў яе правядзення – не філантропства, а эканомія. Чакаецца, што гэтая амністыя дазволіць зэканоміць 1,5 мільярда рублёў.***

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ўжо накіраваў падрыхтаваны ў МУСе праект адмысловага закону – «Аб амніставанні некаторых катэгорый асобаў, якія здзейснілі злачынствы» – дэпутатам Палаты прадстаўнікоў. Паводле яго, з месцаў пазбаўлення волі плануецца вызваліць трохі меней за 2 тысячы чалавек; апрача таго, яшчэ аж 25 тысячам вязняў тэрмін адбывання пакарання будзе скарочаны на 1 год. Амністуюць асобаў, якія прызнаюцца бяспечнымі для дзяржавы і грамадства і да якіх не варта ўжываць крымінальна-прававыя захады. У праваахоўных органах даводзяць, што гэтая амністыя не павінна негатыўна паўплываць на крымінагенную сітуацыю ў краіне.

Будзем спадзявацца, што пад амністыю трапіць як мага болей сапраўды перавыхаваных злачынцаў. Бо працэнт здзяйснення раней асуджанымі асобамі паўторных злачынстваў у Беларусі і без таго даволі высокі. Так, летась кожнае чацвёртае злачынства ўчынялася тымі, хто ўжо пабываў там, дзе неба ў клетку. Дарэчы, апошняя амністыя ў Беларусі была два гады таму – у 2000 годзе. Тады на волю выйшлі каля 10 тысяч асуджаных.

Хутчэй за ўсё новую амністыю абвесцяць да канца гэтага году. Амністыі будуць падлягаць тыя самыя катэгорыі з іх, што і падчас ранейшых амністыяў. Разлічваць на датэрміновы выхад на волю могуць толькі тыя, хто да ўступлення ў сілу закону аб амністыі адседзеў ужо палову тэрміну пакарання. Не свеціць амністыя тым, у дачыненні да каго ўжо прымянялася амністыя ці памілаванне, хто ўчыніў наўмыснае злачынства, асуджаныя да пажыццёвага зняволення, а таксама злосныя парушальнікі рэжыму папраўчай установы.

Сёння паводле колькасці зняволеных на 100 тысяч насельніцтва Беларусь займае трэцяе месца ў свеце – пасля ЗША і Расіі. Зараз у папраўча-працоўных установах і следчых ізалятарах знаходзяцца 50 тысяч чалавек, а разам з тымі, хто адбывае папраўчыя работы, – у 2 разы болей. Беларускія турмы надзвычай перапоўненыя. Колькасць зняволеных тут на чвэрць перавышае норму. Адсюль – дужа вялікія выдаткі на іх утрыманне. На патрэбы Камітэту па выкананні пакаранняў бюджэт адводзіць прыкладна 30 мільёнаў даляраў. Але праблема не толькі ў гэтым. Праз такія ўмовы ў нашых турмах цяпер болей за 5 тысяч хворых на сухоты і ВІЧ-інфікаваных.

Нездарма на пачатку гэтага году, кажучы пра магчымую амністыю, міністр унутраных справаў Уладзімір Навумаў сказаў: «Хацелася б разгрузіць месцы пазбаўлення волі і прывесці іх да еўрапейскіх стандартаў, а людзям у чарговы раз даць магчымасць выправіцца».

Усяго ў Беларусі 37 месцаў зняволення – 19 папраўча-працоўных калоніяў, 7 следчых ізалятараў, 4 калоніі-пасяленні, 3 выхаваўча-працоўныя калоніі для непаўналетніх, 2 турмы і 2 ЛПП.

**Кірэй МАНУЙЛА**

ВОПЫТ СУСЕДЗЯЎ

# Пакаранні чэшскім кэдэбістам

***У апошні травеньскі аўторак у пражскім апеляцыйным судзе два «эстэбэшнікі» (аналаг нашых кэдэбэшнікаў) атрымалі па пяць гадоў турмы за катаванні працаўнікаў далістападаўскага рэжыму.***

### Ручнік і кляймо

У чэрвені 1981 году палітычная паліцыя выклікала ў свой аддзел на пражскай Барталамееўскай вуліцы мастака і падпісанта Хартыі-77 Збынька Бэнышка. Віна яго была ў тым, што ён скардзіўся ў міністэрскую інспекцыю (канечне, марна) на жорсткае абыходжанне «эстэбэшнікаў» на допытах. Афіцэр службы бяспекі Іржы Шымак прывязаў яго мокрым ручніком да крэсла і трымаў так, пакуль ахвяра не страціла прытомнасць. Выкліканы лекар вярнуў яго да жыцця. Праз чатыры дні сп. Бэнышак мусіў зноў з'явіцца на допыт: гэтым разам ужо Шымакаў калега Збынек Дудэк раз за разам біў яго ў жывот. «Эстэбэшнікі» выдатна ведалі, што іх ахвяра мае хворае сэрца.

13 кастрычніка 1981 году Дудэк, Шымак і трэці іх калега, чыя асоба дагэтуль не вызначана, узялі службовае аўто і рушылі на начную акцыю. А палове другой уночы яны пазванілі ў дзверы Зіны Фрэўндавай, адной з распаўсюдніц дакументаў Хартыі і сяброўкі Камітэту па абароне несправядліва пераследаваных (*VONS*). Хеўра ўвалілася ў кватэру і пачала збіваць жанчыну і пагражаць ёй згвалтаваннем. Нарэшце, калі Зіна ўжо не магла падняцца з падлогі, ёй абстрыглі валасы і, задаволеныя, ад'ехалі. Захаваўся фотаздымак, зроблены наступнага дня, дзе ў Зіны Фрэўндавай на назе добра відаць падабенства кляйма – гематома ў выглядзе «эстэбэшнага» абцаса.

У лютым 2002 году суд Прагі-1 адправіў Дудэка з Шымакам на тры гады ў турму.

**Respekt 23/2002**
**Пераклад: Ілля ГЛЫБОЎСКІ**

 

КАНФЛІКТ

## Становішча ў азербайджанскім паселішчы Нардаран напружваецца

Раніцой 5 чэрвеня пад ціскам жыхароў паселішча Нардаран, што недалёка ад Баку, супрацоўнікі праваахоўных органаў былі вымушаны пакінуць паселішча, у якім два дні назад адбыліся крывавыя сутыкненні. Усю ноч у Нардаране працягвалася масавая акцыя пратэсту, у розных частках паселішча сутычкі працягваліся. Нагадаем, што 3 чэрвеня ў Нардаране адбыліся масавыя сутыкненні паміж сіламі правапарадку і жыхарамі паселішча. Загінуў 53-гадовы жыхар сяла Алігусейн Агаеў, 14 нардаранцаў атрымалі раненні рознай цяжкасці, у тым ліку агнястрэльныя. Прычынаю непарадкаў стаў арышт групы аксакалаў (старэйшынаў) паселішча, якія абвінавачваюцца ў супрацьдзеянні мясцовай уладзе.

Жыхары паселішча заявілі, што гатовы «да бою за Нардаран». Яны патрабуюць вызвалення арыштаваных нардаранцаў і грозяцца пачаць «сапраўдную вайну». Улады рыхтуюць у Нардаране нейкую спецаперацыю.

**ИА «ПРИМА»**

НАВУКА

## Марш навуковай дурасці

**Ф. Гансалес-Крусі**

***Прыгадайце, які перабольшаны ўплыў прыпісваўся не так даўно тэорыі псіхааналізу. Зігмунд Фройд вучыў, што ніводны ўчынак у штодзённым жыцці не бывае пусты і бессэнсоўны.***

Ад тых дат тэарэтычныя схемы пачалі набываць маштабнасць, выходзячы па-за межы разумнага. Псіхааналіз разросся ў вялізную лагічную схему-страхапуд. Палітыка, сацыялогія, гісторыя ці медыцына – усе навукі сталі зернем у псіхааналітычным млыне. Нават тэорыі Чарльза Дарвіна зазналі сур'ёзныя скажэнні – ад рук нібыта прыхільнікаў ягонага вучэння. Цяпер ужо кожны ведае, што тэорыя эвалюцыі выкарыстоўвалася дзеля апраўдання капіталістычнай несправядлівасці. Беззаконні і злачынствы спрытна выдаваліся за непазбежныя, праверамы навукаю закон прыроды – «закон натуральнага адбору».

Кожны раз, калі ўзнікае новая магутная навуковая тэорыя, яе абавязкова пачынаюць выкарыстоўваць, каб увесці нас у аблуду. У наш час чарга дайшла да малекулярнай генетыкі. Тэмперамент, атлусценне, сардэчна-сасудзістыя захворванні, разумовыя здольнасці, гомасексуалізм або крымінальныя паводзіны – усё гэта, як сцвярджаюць, закладзена ў генах.

Выдатныя навукоўцы цвердзяць, што ўвесь наш лёс распісаны на малекуле ДНК, і папулярызатары навукі радасным хорам заяўляюць, маўляў, людзі – не што іншае, як «запраграмаваныя» істоты. Маўляў, геном змяшчае поўны набор інструкцыяў, і калі яго цалкам расшыфраваць, то сутнасць людской прыроды будзе зразумета да канца.

Здаровы гуманізм, аднак, накладае абмежаванні на гэткія цверджанні. Ніякая навука не можа поўнасцю выказаць людскую прыроду; усе навукі, нават самыя дакладныя, – толькі частковыя крокі ў гэтым напрамку. Чалавек – нешта большае, чым ягоныя гены. У рэчаіснасці Чалавек – нешта большае за самога сябе, бо пэўныя людскія якасці поўнасцю могуць быць раскрытыя толькі ў грамадстве.

Пакуль навукоўцы, паглынутыя сваімі даследаваннямі, забываюцца на гэтае мудрае вучэнне гуманітарных навук, патуль яны будуць ахвярамі прадузятасці.

**© Project Syndicate**

# Звышчуйны спускавы кручок Паўднёвай Азіі

***Напружанасць паміж Індыяй і Пакістанам крыху аслабла, але застаецца небяспечна высокаю. Цяперашні крызіс наглядна дэманструе, што індыйскую і пакістанскую ядравую зброю і палітыку, якая рэгулюе яе выкарыстанне, трэба ўзяць пад больш строгі кантроль, чымся цяпер.***

За 4 гады з таго часу, як гэтыя дзве краіны бездаважна пачалі гонку ядравых узбраенняў, кожная з іх назапасіла дастаткова ядравых боепрыпасаў.

Мяркуюць, што ў Індыі ёсць каля 40 гатовых для аператыўнага выкарыстання ядравых боезарадаў, магутнасць якіх параўнальна да бомбы, скінутай на Хірасіму, а Пакістан мае каля 20 ядравых боезарадаў. Гэтыя боезарады могуць быць дастаўлены да буйных гарадоў той і другой краіны ваеннымі самалётамі або ракетамі. Вадкасныя ракеты рыхтуюцца да пуску прыкладна за 6 гадзін. Цвёрдапаліўныя ракеты маюць істотна меншыя тэрміны перадстартавай падрыхтоўкі. Пасля таго, як боегалоўкі адпраўяцца ў палёт, час папярэджання складзе менш за 8 хвілін. Пентагон мяркуе, што ў выніку абмену ядравымі ўдарамі паміж Індыяй і Пакістанам могуць імгненна загінуць 12 мільёнаў чалавек, а яшчэ 7 мільёнаў будуць параненыя.



Індыя, нашмат мацнейшая ў ваенным дачыненні за Пакістан, заяўляе, што не выкарыстае ядравай зброі першай. Пакістан такіх заяваў не робіць. Замест гэтага ён не раз заяўляў пра сваю гатоўнасць скарыстаць ядравую зброю ў адказ на рашучы напад Індыі з выкарыстаннем звычайнага ўзбраення. Тэарэтычна ядравая зброя Пакістану знаходзіцца пад кантролем найвышэйшага военачальніка краіны, генерала Первеза Мушарафа. Індыйская ядравая зброя, як і амерыканская, знаходзіцца пад кантролем абранага цывільнага кіраўніцтва краіны. На жаль, цяперашнія кіраўнікі Індыі не надта выяўляюць адказнасць і стрыманасць. Унутраных і ўзаемных абмежаванняў, якія прадухілілі выкарыстанне амерыканскай і савецкай ядравай зброі ў гады «халоднай вайны», на Паўднёваазіяцкім субкантыненце відавочна няма. З таго моманту, калі ў 1947 годзе абедзве краіны здабылі дзяржаўную самастойнасць, ваенныя пралікі і дыпламатычная некамунікабельнасць сталі нормаю індыйска-пакістанскіх стасункаў, што прывяло да трох поўнамаштабных войнаў і незлічоных крызісаў.

**The New York Times**

САМІТ

# Разам не селі

**У Алма-Аце прайшоў саміт азіяцкіх дзяржаваў, на які ўскладаліся вельмі вялікія спадзяванні. Але немагчымага не адбылося.**




У 1992 годзе на 47-й Генеральнай Асамблеі Нурсултан Назарбаеў выступіў з прапановаю стварыць форум, які дазволіў бы павысіць бяспеку ў азіяцкім рэгіёне. І праз 10 гадоў ягоная мара збылася. У Алма-Аце адкрыўся першы саміт Нарады па ўзаемадзеянні і мерах даверу ў Азіі (НУМДА). У былой сталіцы Казахстану сабраліся дэлегацыі 15 краін і адной аўтаноміі: Азербайджану, Афганістану, Егіпту, Ізраілю, Індыі, Ірану, Казахстану, Кіргізіі, Кітаю, Манголіі, Пакістану, Палесціны, Расіі, Таджыкістану, Турцыі і Узбекістану. У якасці назіральнікаў прыехалі прадстаўнікі Аўстраліі, ЗША і Японіі.

Нягледзячы на тое, што за агульным сталом сустрэліся ізраільскія і палесцінскія прадстаўнікі, што яшчэ нядаўна было б успрынята з павышаным энтузіязмам, гаворкі пра лёсы габрэяў і арабаў практычна не вялося. Саміт паспрабаваў пагасіць канфлікт паміж Індыяй і Пакістанам, які мае перспектыву перарасці ў ядравую вайну.

У ролі пасярэдніка паміж індыйскім прэм'ерам Ваджпаі і пакістанскім прэзідэнтам Мушарафам выступіў прэзідэнт Пуцін. Яго памочнікам у гэтай нялёгкай справе вызваўся быць старшыня КНР Цзян Цзэмінь.

Павышаная нервознасць Ваджпаі і яго гіпертрафаванае пачуццё ўласнай выключнасці накладваюць на слова «пасярэднік» найстражэйшую забарону. Рэч у тым, што індыйскі прэм'ер не стамляецца паўтараць: кашмірская праблема тычыцца толькі Індыі і Пакістану. І ніводная краіна ў свеце не павінна ў яе ўмешвацца. Інакш кажучы – ніякіх «пасярэднікаў». Тым не менш Пуцін пасярэднічае. Праўда, якое азначэнне выбраў расійскі МЗС для такой высакароднай функцыі, няясна.

Лінгвістычную дакладнасць Дэлі можна зразумець. Існуюць рэзалюцыі Рады бяспекі ААН, якія прадпісваюць правесці ў Кашміры рэферэндум па пытанні аб самавызначэнні штату. Але і гэта – умяшанне ўва ўнутраныя справы Індыі. Так што размаўляць з Ваджпаі вельмі складана. А не размаўляць – надзвычай небяспечна.

У аўторак, хоць нічога новага прамоўлена не было, усе з вялікім энтузіязмам каментавалі заявы бакоў канфлікту, зробленыя ў Алма-Аце. Сёй-той спадзяецца, што Ваджпаі ўсё ж сядзе за адзін стол перамоваў з Мушарафам, які ўжо чакае там свайго індыйскага калегу. Але надзеяў мала. Ваджпаі настойвае на тым, што спярша Пакістан павінен знішчыць усе тэрарыстычныя базы на сваёй тэрыторыі і выключыць пранікненне баевікоў у Джаму і Кашмір.

Пры гэтым абодва лідэры з імпэтам крытыкуюць тэрарызм. Ваджпаі абвінавачвае Мушарафа. Мушараф мякчэйшым тонам нагадвае, што палітыка Дэлі правакуе ўзнікненне тэрарызму ў індыйскім штаце Джаму і Кашмір, населеным мусульманамі. Даносяцца да Алма-Аты і галасы саміх індыйска-кашмірскіх тэрарыстаў. На з'ездзе сепаратысцкіх партыяў, якія дзейнічаюць у Індыі, прынята рэзалюцыя аб спыненні тэрактаў. У рэзалюцыі ёсць заклік да Ваджпаі і Мушарафа спыніць вайну і нармалізаваць стасункі паміж дзвюма краінамі.

Аднак Ваджпаі цікавяць не гэтыя тэрарысты, а тыя, якіх пакістанскія спецслужбы нібыта засылаюць у Джаму і Кашмір. І пакуль што ён настолькі цвёрда стаіць на сваёй пазіцыі, што зрабіў вельмі дзіўную заяву: індыйская дэлегацыя прыбыла ў Казахстан не дзеля таго, каб выслухоўваць ад каго б там ні было пацыфісцкія прамовы. А толькі дзеля таго, каб дамовіцца пра эканамічнае супрацоўніцтва з шэрагам азіяцкіх краінаў.

Вялікага прарыву ў дачыненнях паміж Індыяй і Пакістанам у Казахстане не адбылося. Ваджпаі і Мушараф сам-насам размаўляць адмовіліся. Але, паводле словаў Уладзіміра Пуціна, перамовы з Мушарафам усяляюць аптымізм, бо пакістанскі лідэр выказаў разуменне таго, што краіна павінна ўзмацніць барацьбу з кашмірскімі тэрарыстамі.

Вось такімі прывіднымі дасягненнямі і скончыўся саміт. Прыняты на ім выніковы дакумент, у якім асуджаецца тэрарызм і вітаецца дружба азіяцкіх дзяржаваў, можна назваць дэкаратыўным. Але жыццё на месцы не стаіць. Цяпер Індыю і Пакістан будуць мірыць іншыя: у рэгіён выпраўляюцца пасланцы ЕС і ЗША.

**Уладзімір ТУЧКОЎ**

# Бойцеся «транзітных калідораў»

*Еўрапейскі Саюз заяўляе, што Польшча і Літва павінны ўвесці візавы рэжым для расіян, у тым ліку для 900 тысяч жыхароў Калінінградскай вобласці. У адказ расійскія сродкі масавай інфармацыі папярэджваюць, што замест «жалезнай заслоны» апусціцца «сіняя» – па колеры сцяга Еўрапейскага Саюзу.*

Прэзідэнт Расіі хоча, каб Еўрапейскі Саюз, а канкрэтна Польшча і Літва, дазволіў бязвізавы праезд расіянам, якія едуць праз тэрыторыю гэтых краін у Калінінградскую вобласць. Даўней Калінінград называўся Кёнігсбергам і месціўся на тэрыторыі Усходняй Прусіі. Прэзідэнт Пуцін хоча таксама, каб праз тэрыторыі Польшчы і Літвы ішлі надзейныя чыгуначныя і аўтамабільныя транспартныя калідоры. Гэтая фраза нагадвае, асабліва палякам, пра 1939 год, калі магутны заходні сусед планаваў стварыць «калідор» для «ізаляваных грамадзян» (гаворка ідзе пра Нямеччыну і так званы «Гданьскі калідор», які тая збіралася пракласці да сваіх ізаляваных тэрыторыяў у Усходняй Прусіі). Калі Еўрапейскі Саюз застанецца пры сваёй думцы, заявіў прэзідэнт Пуцін старшыні Еўрапейскай камісіі Рамана Продзі, што знаходзіцца з візітам у Расіі, – то «права расіян вольна наведваць сваіх сваякоў, якія жывуць у другіх рэгіёнах Расіі, будзе залежаць ад рашэнняў замежнай дзяржавы».



Еўрапейскі Саюз выстаяў перад ціскам і патокам лаянкі з Масквы. Не будзе спецыяльных транзітных праходаў, транзітных дарог ці «запламбаваных цягнікоў». Еўрапейскі Саюз мае ўсе падставы, каб супрацьўляцца заключэнню любых спецыяльных пагадненняў. Шэнгенскай дамове патрабуюцца высокія знешнія муры, каб больш як 200 мільёнаў еўрапейцаў маглі жыць у свеце без межаў. Ні для кога не рабілася ніякіх выключэнняў, а праблемы Калінінградскай вобласці ўвогуле унікальныя.

Асноўныя складнікі яе экспарту – наркотыкі, арганізаваная злачыннасць, прастытуткі і скрадзеныя машыны. У рэгіёне – найвышэйшы паказчык захворвання СНІДам на душу насельніцтва. Еўрапейскаму Саюзу на тэрыторыі супольнасці не патрэбны прытулак злачыннасці з практычна бескантрольнымі межамі.

Калі-небудзь Калінінград, магчыма, стане цэнтрам законнага гандлю, а не злачыннасці. Але цяпер найглыбейшы порт Калінінграду не мае магчымасці займацца камерцыяй. Масква пільна вартуе свае права вызначаць памеры падаткаў і выдаваць дазволы на стварэнне сумесных прадпрыемстваў; нават пошта ўся павінна ісці праз Маскву.

Калі пільней прыгледзецца да гэтае спрэчкі, то яе прычыны робіцца зразумелымі. Маскву здаўна непакоіць, што Калінінградская вобласць захоча адлучыцца ад Расіі або значна паслабіць сувязі з ёю. Гэтая тэрыторыя, як і японскія Курыльскія астравы, была ваенным трафеем Сталіна. Жыхары Калінінградскай вобласці прыехалі сюды з Расіі. Кожны пяты атрымлівае зарплату ў Міністэрстве абароны; гэта часткова тлумачыць падтрымку жорсткага нацыяналізму.

Як бы там ні было, занепакоенасць Крамля сепаратысцкімі настроямі ў рэгіёнах, якія існуюць гэтулькі ж, колькі і сама Расія, у гэтым выпадку не дарэчы. Кёнігсберг, як і багата іншых гарадоў, – гэта Атлантыда, якая адышла ў гісторыю. Добра гэта ці дрэнна, але цяпер Калінінград – расійская тэрыторыя. Пагадненне з Еўрапейскім Саюзам, якое дазволіць легальна перасякаць межы дзеля гандлю, пойдзе на карысць і насельніцтву Калінінградскай вобласці, і яе суседзям.

**The Wall Street Journal**



**Вялікабрытанія. На юбілейны канцэрт у гонар каралевы сабраліся зоркі зусім не кансерватыўнага кшталту, дый канцэрт не цярпеў ад афіцыёзу. Напрыклад, Браян Мэй з групы *Queen* граў проста на даху Букінгемскага палацу...**

**АМЕРЫКА**

## *Галоўны арганізатар ужо не бен Ладэн*

**Следчыя групы, якія займаюцца зборам звестак пра тэракты 11 верасня, лічаць, што галоўным арганізатарам нападу быў не сам Усама бен Ладэн, а адзін з яго найбліжэйшых памагатых, перадае амерыканская тэлекампанія *CNN*.**

Спецслужбы называюць імя кувейцкага грамадзяніна Халіда Шэйха Махамеда.

Амерыканскія следчыя мяркуюць, што Махамед непасрэдна спланаваў і падрыхтаваў дзеянні тэрарыстаў. «У нас ёсць шмат сведчанняў ягонай прычыннасці да падзеяў 11 верасня», – паведаміў прадстаўнік ФБР, які пажадаў застацца невядомым. – Ён – адна з ключавых фігураў і галоўны аператыўны агент тэрарыстычнае сеткі». У падрыхтоўку аперацыі былі ўцягнутыя і іншыя памочнікі бен Ладэна, аднак менавіта Махамед знаходзіўся ў цэнтры ўсяе змовы.

Яшчэ за тры месяцы да 11 верасня ў распараджэнне ФБР трапілі звесткі пра тое, што Махамед пераводзіць на банкаўскія рахункі буйныя сумы. Як высветлілася пазней, гэтымі грашыма было заплачана выканаўцам тэрактаў.

Адміністрацыя ЗША прызначыла ўзнагароду ў 25 мільёнаў даляраў за інфармацыю, якая дапаможа злавіць Халіда Шэйха Махамеда.

# Еўрапейскі ваенны патэнцыял

**Ян ДЭВІДСАН,**
**дарадца і аглядальнік Цэнтру Еўрапейскай Палітыкі ў Брусэлі**

***У перыяд «халоднай вайны», калі Захад баяўся нападу з боку савецкага блоку, ЗША і Еўропа аб'яднанымі намаганнямі стварылі NATO дзеля процістаяння агульнай пагрозе. Сёння, калі асноўную боязь у заходніх краінах выклікае міжнародная нестабільнасць і тэрарызм, сярод саюзнікаў ЗША па NATO назіраецца нашмат меншая еднасць у пытанні, як на іх рэагаваць.***

Прычына рознагалосьсяў часткова крыецца ў розным аб'ёме ваенных выдаткаў па абодва бакі Атлантыкі, а значыць, у ваенным патэнцыяле. Злучаныя Штаты выдаткоўваюць на абарону нашмат больш, чым іх еўрапейскія саюзнікі. Па меры росту ваеннага бюджэту ЗША будзе павялічвацца і разрыў у ваеннай магутнасці паміж імі і іх саюзнікамі па той бок Атлантыкі. Нехта можа сказаць, што Еўропа павінна пастарацца скараціць гэты разрыў, павялічваючы асігнаванні на абарону. Магчыма. Але тут існуюць дзве праблемы.

Першая праблема ў тым, што «еўрапейскае» *NATO* – гэта 16 розных краін са сваімі ўзброенымі сіламі і 16 розных ваенных бюджэтаў. Калі б нават супольнымі намаганнямі яны змаглі дараўнаць Амерыцы паводле аб'ёму ваенных выдаткаў, ім усё роўна не ўдалося б дасягнуць ваеннай моцы ЗША, не аб'яднаўшы ўсе ваенныя выдаткі ў адзіны бюджэт.

Другая і больш важная праблема тая, што (з пэўных прычын) еўрапейскія краіны не надаюць ваенным магчымасцям такога вялізнага значэння, як Злучаныя Штаты. Не ўсе прычыны, што выклікаюць такое стаўленне, вартыя захаплення: за час «халоднай вайны» некаторыя саюзнікі прывыклі спадзявацца ў ваенных пытаннях на Амерыку.

Цягам стагоддзяў, калі не тысячагоддзяў, еўрапейскія краіны няспынна ваявалі адна з адною. У першай палове 20 стагоддзя ім удалося ператварыць гэтыя канфлікты ў сусветныя войны, а Еўропу – у адну вялікую магілу.

Утварэнне адзінай агульнаеўрапейскай прасторы яшчэ далёкае ад завяршэння, але сам працэс змяніў погляды еўрапейцаў, якія цяпер няўхільна прытрымліваюцца палітыкі мірнага вырашэння ўласных міжнародных праблемаў. На Балканах, напрыклад, бомбавыя ўдары наносіліся галоўным чынам амерыканцамі, тым часам як міратворчыя аперацыі прыпадалі пераважна на долю еўрапейцаў. Існуюць, вядома, і прычыны мясцовага характару для таго, чаму міратворчая дзейнасць і аднаўленне балканскіх дзяржаваў былі для еўрапейскіх краін прыярытэтнымі. Вайна на Балканах становіць непасрэдную пагрозу стабільнасці і інтарэсам Еўропы, таму ўрады еўрапейскіх дзяржаваў наўпрост зацікаўленыя ў усталяванні міру ў гэтым рэгіёне.

Менавіта гэтая перспектыва грандыёзнага пашырэння і вызначае асноўную праблему, перад якою стаіць ЕЭС: як умацаваць і ўзмацніць агульнаеўрапейскія структуры, каб пасля таго, як Супольнасць пашырыцца да 27, а то і болей, краін замест сённяшніх 15, ёю магчыма было кіраваць па-ранейшаму эфектыўна.

**© Project Syndicate**

**БОСНІЯ**

# Караджыча ратуюць хірургі

## *Цяпер яго можа пазнаць толькі жонка*



**Брыгада медыкаў прааперавала ў адной з бялградскіх клінік былога лідэра баснійскіх сербаў Радавана Караджыча, які падазраецца ў ваенных злачынствах. Пра гэта паведаміла газета *Dnevni Avaz*, што выдаецца ў Сараеве.**

«Караджыч, які пасля пластычнае аперацыі займеў новы твар і атрымаў новыя дакументы, можа без боязі хадзіць пад бокам у сілаў *SFOR* (сілы стабілізацыі ў Босніі, што знаходзяцца пад кіраўніцтвам *NATO*)», – гаворыцца ў артыкуле. Паводле сцверджання газеты *Dnevni Avaz*, «аперацыю па змене знешнасці Караджычу правяла група дасведчаных спецыялістаў па скіўна-тварнай хірургіі адное з сучасных маскоўскіх клінік».

Крыніцы, ад якіх газета атрымала гэтую інфармацыю, адзначаюць таксама, што цяпер Караджыча можа пазнаць толькі ягоная жонка – Ліліяна Зелен-Караджыч – і некалькі самых адданых целаахоўнікаў, якія ўвесь час знаходзяцца пры ім.

Месцазнаходжанне 57-гадовага Караджыча, якога шукае Міжнародны Трыбунал па ваенных злачынствах у былой Югаславіі і які абвінавачваецца ў здзяйсненні злачынстваў падчас вайны ў Босніі (1992–1995), ужо некалькі гадоў застаецца невядомым. Усе спробы міратворчага ваеннага кантынгенту знайсці яго ў гэтай зоне поспеху не мелі.

**El Mundo**

# Погляд з нёманскіх берагоў

## *Гутарка з гарадзенскім мастаком-манументалістам Сяргеем Грыневічам*

***Першай знакавай тэмай у творчасці Сяргея Грыневіча, бадай, сталі пірамiды. Мастака прыцягвае не толькі сімволіка старажытных пабудоў, у яго творах паўтараюцца іншыя сімвалічныя рэчы – кандэлябр, вінтавая лесвіца, крэслы. Як правіла, усе, хто бачыць крэслы Грыневіча, адразу ўзгадваюць пра знакамітую аднайменную п'есу Эжэна Іянэска. Сапраўды, падабенства да сцэнічнага антуражу ёсць.***



**– У траўні ў гарадзенскай галерэі Саюзу мастакоў адбылася незвычайная, як на наш горад, выстава. Творы мастацтва выстаўляліся разам з мэбляй мясцовай мэблевай фабрыкі. Як ты ацэньваеш такое спалучэнне?**

– Мастацтва, у рэшце рэшт, прызначаецца, каб упрыгожваць нашае жытло. Відно, што гэта рэч ужытковая. Кераміка, ткацтва, скульптура малых формаў. Першае іх прызначэнне – упрыгожваць не музеі. Бо вядомыя сённяшнія музеі – Эрмітаж, Луўр – перш былі чыімсьці жытлом. Да мэблі гэтыя творы пасуюць, і ўсё разам выглядае не горш, чым рафінаваныя выставы.

**– Мы раней сапраўды бачылі прадметы мастацтва толькі ў музеях. Але апошнім часам у заходніх фільмах, у мыльных серыялах паказваюць шыкоўныя вілы, багатыя інтэр'еры, дзе многа мастацкіх рэчаў.**

– У адной маскоўскай галерэі ў мяне было выстаўлена больш за дзесяць карцін і – ніякіх зрухаў, ніякай цікавасці. І гэта Гагарынскі завулак, побач Гогалеўскі бульвар. Цэнтр Масквы. Таму я нядаўна аддаў некалькі сваіх карцінаў у галерэю «Аўтарскі дызайн». Гэта ўжо самы цэнтр гораду, Пушкінская плошча. Там ёсць рэчы Філіпа Старка. Дарэчы, ён у траўні на тры дні прыязджаў у Маскву па запрашэнні адной фірмы, якая займаецца прэзентацыяй мэблі, яго аўтарскіх рашэнняў. Тэндэнцыя цяпер існуе такая: мастацтва прадаецца разам з мэбляй. Якая таксама – твор мастацтва, яна падпісана аўтарам. Гэта штучныя вырабы. І мне замовілі яшчэ некалькі прац прывезці. Іх зацікавілі мае карціны, і для мяне цікава выставіцца ў такой галерэі.

**– Ты апошнім часам ездзіш у Маскву: ты там больш працуеш ці болей выстаўляеш свае карціны?**

– Болей працую, чым выстаўляюся. Удзельнічаю ў калектыўных выставах. Персанальнай у мяне там не было. Я сабе залічваю за здабытак толькі персанальныя. Часцей распісваю там плафоны. Сёлета я і тут зрабіў роспіс плафона, столі. Але там папросту ёсць попыт на гэта. Мода, можна сказаць, у «новых рускіх». Попыт на манументальнае мастацтва. У нас яго ўвогуле няма. Таму манументалісты нашыя малююць сёння толькі карціны. Кожны з нас, мастакоў гэтай спецыяльнасці, мае настальгію па ранейшых магчымасцях. Вітраж, роспіс, фрэска... Увогуле праца ў канкрэтнай архітэктурнай сітуацыі – гэта заўсёды цікава. Там, у Маскве, ёсць магчымасць сябе рэалізаваць. Вядома, існуюць і свае складанасці. Прыватныя інтэр'еры, густ заказчыка. Але калі сябе зарэкамендуеш, заказчык пачынае табе давяраць, твайму густу.

*– Што ты чытаеш?*
*– Ну вось перачытаў Сэлінджэра. А што датычыць беларускай літаратуры, дык чытаю «Калосьсе», усе нумары маю*

**– А што канкрэтна жадаюць бачыць на сваёй столі «новыя рускія»?**

– Рэалізм. Малююцца неба, прастора, розны стан прыроды. Краявіды. Па ўсіх законах класічнага плафоннага жывапісу. Псеўдакласіцызм. Яны хочуць мець роспісы, якія нагадваюць пампейскія. Італьянскі класіцызм, дзе «падманкі» робяцца. Частка архітэктурных дэталяў рэальная – пілястры, капітэлі, а іншыя малююцца. І часам цяжка адрозніць – дзе намалявана, а дзе сапраўднае.

**– А ў нас такія роспісы існуюць, напэўна, пераважна ў касцёлах – у тым жа нясвіжскім?**

– Так, ёсць роспіс у Нясвіжы. Але не толькі. Даўней на практыцы пасля другога курсу Тэатральна-мастацкага інстытуту заўсёды студэнты ездзілі ў Ноўгарад, капіявалі фрэскі. Андрэя Рублёва, напрыклад. А для нашага курсу хіба грошай не знайшлося, і мы паехалі ў Мсціслаў. Тады якраз адбывалася рэстаўрацыя кармеліцкага касцёла. Мы ў ёй удзельнічалі і разам капіявалі фрэскі. Там яны былі аўтарства італьянскіх майстроў. XVII стагоддзе. Выява забойства Іясафата Кунцэвіча. Рабілі, па-цяперашняму кажучы, італьянскія халтуршчыкі. Брыгада ездзіла італьянскіх мастакоў. Але яны вучыліся ў сябе на радзіме на роспісах таго ж самага знакамітага Джота альбо Цынтарэта. І мы шмат чаму навучыліся тады. Жывапіс колерамі. Кожны колер замешваецца ў асобным слоіку і пішацца па спецыяльнай тэхналогіі. Гэтым я карыстаюся і цяпер.

**– Нашыя мастакі час-часам звяртаюцца да перформансу. Праўда, да Гродна гэтая хваля, здаецца, не дайшла?**

– У нас у горадзе была мастацкая акцыя «Маргінэс-17» у галерэі «У майстра». А так мяне аднойчы запрашалі Алесь Пушкін і Артур Клінаў. У сталіцы існуе традыцыйны ўжо фестываль перформансу. Але я проста не сабраўся, не паспеў нічога прыдумаць.

**– А куча гною – таксама перформанс?**

– Ну так, канечне. Пушкін, ён прыдумаў гэтую акцыю. Ён пераапрануўся ў беларускага мужыка, у саламяным капелюшы быў. Кашуля-вышыванка. Загадзя была падрыхтавана тачка з гноем. Ён сядзеў у скверы, дзе фантан. А тачка недалёка стаяла, і ніхто не звярнуў увагі. Мала што – угнаенні, можа, для газону, для кветак. Ён раптоўна ўзяў яе і пашыбаваў напрасткі пад пад'езд прэзідэнцкі.

**– Як мастак адчувае сённяшні дзень, ці прыгнятае яго атмасфера, якая пануе ў краіне? У сэнсе свабоды творчасці і свабоды асобы наогул?**

– Свабоду асобы мы адчуваем так, як усе адчуваюць. Што нам візы трэба паўсюль, куды б ні паехаў. Акрамя Польшчы, дый туды хутка зробяць візавы праезд. Мне з гэтым цяжка пагаджацца. А свабода выезду мастаку патрэбна для таго, каб убачыць свет, паказаць свае творы і каб адпачыць. Я часта выязджаю за мяжу. І там для іх проста незразумела, што нам неабходна атрымліваць візу, і на гэта столькі часу і высілкаў ідзе. І што мы проста не можам паехаць спакойна туды, куды хочам. Асабліва гэтая несвабода ў дзеяннях заўважна, калі параўноўваць з прыбалтамі. Яны былі ў такіх жа ўмовах, як мы, але сёння ездзяць свабодна, дзе хочуць. Хіба што ў Амерыку ды ў Англію па візах. І то атрымаць тую візу асаблівай складанасці няма. А як мастак, які не займаецца рэалістычным мастацтвам у наўпроставым сэнсе, асаблівых цяжкасцяў з самавыказваннем я не адчуваю. Хоць ёсць выпадкі забароны выставаў у Беларусі з ідэалагічных прычынаў, карацей – цэнзуры. У мінулым годзе была выстава ў галерэі «Золата» каля Акадэміі мастацтваў. Была выстава забароненых твораў. Якія здымаліся, як у колішнія часы, перад адкрыццём выставаў.

*– Што б ты намаляваў як апошнюю карціну?*
*– Філасофскае пытанне. Можа, аўтапартрэт? Я думаю, што было б някепска*

**– У Польшчы гэта, мабыць, немагчыма.**

– Вядома, там гэта быў бы нонсэнс. А ў нас усё гэта адрадзілася.

**– Ці ёсць супраць чаго пратэставаць мастаку ў заходніх краінах, як на твой погляд? Супраць чаго яны пратэстуюць? Можа, перформансы якія наладжваюць?**

– Ёсць такое традыцыйнае Трыенале прыбалтыйскіх краін. Яно праходзіць раз на тры гады ў адной са сталіц. Мы яшчэ ў савецкія часы туды ездзілі, гэта быў як глыток свежага паветра. Гэтая традыцыя захавалася. Яны цяпер, прыбалты, хіба ўжо нецікавыя адны адным. І сёння гасцей больш, чым удзельнікаў. Запрашаюць мастакоў у асноўным са Скандынавіі. Высокі ўзровень, цікавая выстава, агромністыя памеры карцін. Быў запрошаны і з Масквы такі Дубасарскі, які напісаў «Партрэт Пікасо ў Маскве». Пікасо ніколі не быў у Маскве, але стаіць на ўзбярэжжы Масквы-ракі, і Крэмль відзён. У такой рэалістычнай манеры выканана. А паўночнаеўрапейскія аўтары запомніліся брутальнасцю сваёй. Вельмі цяжка ўспрымаць іх творы, у якіх пануе насілле. Як хіба і ў кінафільмах амерыканскіх. Пераносіцца гэта на палатно і павялічваецца ў памерах. Такая традыцыя, манера яшчэ нямецкага экспрэсіянізму 20-х гадоў. Але ўжо на падставе цяперашніх сюжэтаў. Нейкія кібаргі, страшныя людзі, забойцы намаляваны. Фантасмагорыі. А сама манера рэалістычная.

**– Табе даводзіцца працаваць на Захадзе, і разам з табой працуюць мастакі з розных постсавецкіх краін, былых сацыялістычных. Якія ў цябе меркаванні пра іхняе мастацтва? Асабістыя ўражанні?**

– Галерэі, з якімі я супрацоўнічаю, займаюцца ўсходнееўрапейскім мастацтвам. І ў Амерыцы я быў, пленэр рабіўся для прадстаўнікоў Усходняй і Сярэдняй Еўропы. А мы ўсе выйшлі, можна сказаць, з аднаго «стойла». Вучыліся на творах сацыялістычнага рэалізму. Гэты прэс у Польшчы, Венгрыі ды іншых краінах быў меншы, але таксама быў. У 50-я гады ў іх было панаванне сацрэалізму, у плакаце асабліва, у станковым жывапісе, і помнікі Сталіну ставіліся. Але, вядома, не ў такой ступені, як у нас. І, бадай, ім было лягчэй перайсці на агульначалавечыя нормы ў мастацтве. Плюсы былі хіба ў тым, што сацрэалізм вымагаў добрага валодання рэалістычнай школай. А на Захадзе яна ўвогуле была разбурана, гэтая рэалістычная школа. Мастакі прывучаны адразу да такой свабоды, што часта не на карысць ім. Бываюць сітуацыі, калі трэба зрабіць так, як у жыцці. Партрэт, краявід. І ў іх былі з гэтым цяжкасці. Хаця ёсць і там людзі, якія добра малююць, але вельмі рэдка. Усе заўважаюць, што адсутнічае акадэмічная школа, а яна ўсёткі – набытак не аднаго пакалення. І гэта набытак не савецкі або расейскі, а – французскай акадэміі, Рэнесансу і ўвогуле антычнага мастацтва.

**– Можа, таму запрашаюць, што можна менш заплаціць, ці, наадварот, заходнееўрапейцам патрэбна свежая кроў, новыя ідэі?**

– Не, я думаю, што цэны мала чым адрозніваюцца. Калі ўжо мастак выехаў туды, ён бачыць узровень цэнаў і ўзровень свайго мастацтва. І адразу арыентуецца. Нашы людзі хутка вучацца. Але я думаю, што ўсё ж такі запрашаюць таму, што высокі ўзровень мастацтва. Школа добрая. І не толькі ў былым Савецкім Саюзе. У Румыніі, напрыклад, таксама.

**– Ты ўзгадаў пра Амерыку. Што гэта быў за пленэр?**

– У Новай Англіі, на поўнач ад Нью-Йорку – Масачусетс, Канектыкут, курортныя мясціны, нацыянальны парк, клімат, падобны да нашага. Там арганізуюцца «калоніі» летам. Большая частка галерэй, у тым жа самым Нью-Йорку, выязджаюць на летнія вакацыі, ладзяць для мастакоў, з якімі працуюць, пленэры. Такія «калоніі» робяцца і для мастакоў, і для музыкантаў, таксама для паэтаў. У арганізатара нашага пленэра быў сантымент да Расіі, да Еўропы ўвогуле. Потым ён праз інтэрнэт даў аб'яву і вырашыў зрабіць такую «калонію», пленэр для мастакоў менавіта з Усходняй Еўропы. Ён арандаваў кемпінг у прыгожай мясціне, і там мы жылі, там былі майстэрні. А непадалёк мястэчка Стокбрыдж. Там ён таксама арандаваў галерэю, дзе і выстаўляліся карціны. Асаблівага камерцыйнага поспеху гэта не мела, але было прыемна з мастакамі паразмаўляць, пабыць разам.

**Гутарыў Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# «Вахта памяці» пакінула Курапаты

*На месцы спаленага намёта пастаўлена мемарыяльная шыльда*

**Перамога валанцёраў ва ўрочышчы Курапаты – «пралог паражэння кіруючай улады». Пра гэта казалі ўдзельнікі мітынгу, што адбыўся ў Курапатах з нагоды заканчэння 250-дзённай кругласутачнай вахты добраахвотнікаў ва ўрочышчы. З гэтага часу валанцёры будуць весці ў Курапатах толькі ранішняе і вячэрняе патруляванне.**



Фота IREX/ProMedia

На мітынг ля Крыжа пакутаў сабраліся валанцёры, прадстаўнікі палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў, сваякі ахвяр палітычных рэпрэсій. У цэнтры паляны быў узняты бел-чырвона-белы сцяг. Месца, дзе доўгі час стаяў намёт валанцёраў, спалены невядомымі ў ноч з 18 на 19 красавіка, агароджана стойкамі са шнурам і чырвонымі сцяжкамі. Побач з гэтым месцам прымацавана мемарыяльная дошка: «На гэтым месцы з 24.09.2001 г. па 03.06.2002 г. беларуская моладзь трымала кругласутачную вахту, абараняючы нацыянальны некропаль Курапаты ад разбурэння падчас будаўніцтва дарогі». На тэрыторыі ўрочышча, а таксама ўздоўж галоўнай алеі ўзвышаюцца шматлікія крыжы, узведзеныя добраахвотнікамі за перыяд вахты. На іх – расцяжкі з надпісамі: «Патрабуем мемарыялізацыі Курапат дзяржавай!» і «Тут пакоюцца астанкі тысяч грамадзян Беларусі – нявінных ахвяр расейскага камуна-фашызму».

Старшыня Партыі БНФ і руху БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка падкрэсліў: «Мы ведаем, што павінна быць створана такая дзяржава, для якой панячце «Курапаты» стане святым і якая не дапусціць іх паўтарэння».

Старшыня незарэгістраванага грамадскага аб'яднання Малады Фронт Павел Севярынец нагадаў, што роўна 14 гадоў таму ў газеце «Літаратура і мастацтва» з'явіўся артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты – дарога смерці», і з таго часу ўрочышча зрабілася вядомым ва ўсім свеце. «Паўтара дзесяцігоддзі пасля гэтых падзей ішла ціхая барацьба за Курапаты, пакуль 21 верасня мінулага году сюды не прыйшлі бульдозеры, – сказаў П. Севярынец. – Аднак праз некалькі дзён супраць іх паўсталі маладыя людзі… Улады ўзялі передышку, пасля чаго, 8–9 лістапада, накіравалі ў Курапаты тэхніку і міліцыю, АМАП і брыгаду спецыяльнага прызначэння. Рэжым прымяніў гвалт і асудзіў многіх абаронцаў Курапат, аднак гэта не змагло зламаць валанцёраў… Мы дачакаліся праўды пра Курапаты, паколькі пракуратура прызнала факт гібелі ва ўрочышчы ахвяр палітычных рэпрэсій. Затым была аднаўлена памятная лаўка, што была падорана прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам беларускаму народу».

Пасля мітынгу дэлегацыя абаронцаў Курапат накіравалася да будынку Дома ўраду, каб перадаць петыцыю з патрабаваннем мемарыялізацыі ўрочышча. 30 актывістаў незарэгістраваных Беларускай партыі свабоды (БПС) і Маладога Фронту дабраліся да цэнтру гораду на тралейбусе, а ад вуліцы Нямігі да плошчы Незалежнасці ішлі пад разгорнутымі бел-чырвона-белымі сцягамі.

Каля Дома ўраду кіраўнік БПС Сяргей Высоцкі зачытаў петыцыю, падпісаную дзесяткамі ўдзельнікаў вахты ў Курапатах. У ёй, у прыватнасці, сказана: «Мы лічым, што зняважлівыя адносіны дзяржаўнай улады да гэтага месца з'яўляюцца блюзнерствам і формай пасіўнага вандалізму. У сувязі з гэтым мы настойваем, каб дзяржава ўзяла на сябе адказнасць за дастойную мемарыялізацыю Курапатаў, пачынаючы з устаноўкі агароджы і забеспячэння належнай аховы».

**Марат ГАРАВЫ, Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

### ДУМКА ПАСПАЛІТАЯ

На мой погляд, хлопцы зацягнулі са сваім адыходам з Курапатаў. Трэба гэта было яшчэ перад Новым Годам зрабіць. А наогул, такая мясціна, як Курапаты, не павінна станавіцца полем, дзе раскручваюць сваю вядомасць маладзёжныя партыі і рухі. Няўжо няма іншых праблемаў, якімі жывыя людзі жывуць? Людзям не надта цікава сачыць за так званымі вахцёрамі, што зімой сядзелі там ля вогнішча. Чаго сядзець і глядзець на будаўнікоў, калі вучыцца і працаваць трэба? А людзі абыякавыя да іх, можа, таму, што ў нас мала ведаюць пра Курапаты. Вось сам я таксама мала ведаю, каго пайменна там расстрэльвалі. Ніхто пра гэта не піша. Тыя ж самыя рухі і партыі, што патрулююць. А такой цікавасці, якая была, калі Пазьняк надрукаваў свой артыкул пра Курапаты, сёння ўжо быць не можа. Час іншы, людзі змяніліся, шмат чаго народ даведаўся з таго часу. Сам Пазьняк ужо нікому не цікавы, кожны не горш за яго разумее, чаму ў нас такое жыццё, а ў каго другога лепшае. Шмат людзей мае сумленне і чулліве сэрца, а не адны тыя маладзёжныя патрулі. Гэта маё асабістае меркаванне, а як там хто іншы думае, я не ведаю, ды мне і ўсё роўна.

# Не пачутае слова Пазьняка

*Лідэр КХП БНФ лічыць, што цяперашняя ўлада ў Беларусі не будзе спрыяць чымсьці добраму, святому і беларускаму.*

Старшыня Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк прапаноўвае беларускай моладзі прадоўжыць кругласутачную вахту ў Курапатах. Гэтая прапанова прагучала ў звароце, які З.Пазьняк даслаў удзельнікам «вахты памяці», якая з верасня мінулага году была арганізавана ў сусветна вядомым месцы вынішчэння людзей сталінскімі карнікамі.

«Нягледзячы на цяжкасці, няпростую задачу, вы сталі на бок тых, хто бароніць магілы закатаваных продкаў, – з павагай кажа З.Пазьняк. – Вы зрабілі мужны ўчынак, які паспрыяў захаванню святога месца».

На думку вядомага беларускага палітычнага дзеяча, які з 1996 году вымушаны жыць за мяжой, неабходна прадоўжыць ахову Курапатаў не толькі ноччу.

«Пахаванні, якія маюць вялікае грамадскае і нацыянальнае значэнне, ахоўваюцца ва ўсім свеце. Нельга пакідаць Народны мемaрыял без нагляду. Было б добра, каб удзень і ўночы Курапаты былі пад аховай. Пакуль улада ў Беларусі ў чужых руках, яна не будзе спрыяць чымсьці добраму, святому і беларускаму. Таму шмат што залежыць ад супольнага рушэння і магчымасцей саміх беларусаў. Ахова Курапатаў – адна з канкрэтных грамадскіх задач», – гаворыцца ў звароце.

«Курапаты ёсць рэальнае сведчанне генацыду беларускага народа, які ажыццяўлялі расійскія бальшавікі, – адзначыў лідэр КХП БНФ. – Адначасова гэта ёсць сімвал пакутаў беларускай нацыі, якая страціла незалежнасць. У Курапатах кожны беларус мае магчымасць задумацца над мінулым народа і зазірнуць у будучыню. Гэтае месца ёсць скрыжаванне беларускага лёсу. Яно гаворыць пра выбар шляху».

«Прыйдзе час, – узнёсла кажа ў сваім звароце лідэр КХП БНФ, – і мы адродзім усё, адновім усю нашу беларускую зямлю, нашу дарагую, вечную Бацькаўшчыну, зьнікне хамская дарога праз Курапаты, і чужыя балваны не будуць тырчэць у Беларусі. Мы адбудуем нашу квітнеючую Айчыну. Мы створым нашу цудоўную будучыню. Паглядзіце на яе сімвал. Вось яна ўваскрасае, як зерне, прарастае з магіл пакуты».

Ці паўплываюць словы Зянона Пазьняка на аднаўленне кругласутачнай вахты памяці ва ўрочышчы, пакажа бліжэйшы час.

**Вера РЫМКОВІЧ**

### НАГОДА УСПОМНІЦЬ

**7 чэрвеня**

**1502.** Нарадзіўся Грыгорый XIII, Папа Рымскі з 1572 году. Менавіта яму мы абавязаныя з'яўленнем сучаснага календара.

**1692.** Землятрус на Ямайцы разбурыў тутэйшую сталіцу Порт-Раяль. Да таго ж хваля цунамі змыла ў мора паўночную частку гораду разам з жыхарамі. За 2 хвіліны загінулі дзве трацінЫ насельніцтва – 3 тысячы чалавек.

**1927.** Віленскі беларус, 17-гадовы гімназіст Барыс Каверда на варшаўскім вакзале забіў паўнамоцнага прадстаўніка СССР Пінхуса Вайкова (Вайнера). За гэта Каверда быў асуджаны польскімі ўладамі на 15 гадоў зняволення, але праз 4 гады ў камеры скончыў жыццё самагубствам.

**1945.** Усім немцам у зонах акупацыі саюзнікаў загадана паглядзець дакументальны фільм пра тое, што ўчынілі фашысты ў Бухенвальдзе.

**8 чэрвеня**

**452.** Старажытны Рым захоплены гунамі на чале з Атылам.

**632.** Памёр Магамет, заснавальнік ісламу; шануецца мусульманамі як прарок.

**1737.** Памёр Антоніо Страдывары, італьянскі майстар смычковых інструментаў. Вядомымі майстрамі былі і два ягоныя сыны.

**1922.** У Савецкім Саюзе ствараецца Галоўнае ўпраўленне па справах літаратуры і мастацтва – Галоўліт, які выконваў цэнзурныя функцыі.

**9 чэрвеня**

**1672.** Нарадзіўся першы расійскі імператар Пётр I, заснавальнік Санкт-Пецярбургу.

**1812.** Нарадзіўся Ёган Готфрыд Галле, нямецкі астраном, які адкрыў у 1846 годзе планету Нептун па каардынатах, вылічаных французам Левяр'е.

**1822.** У ЗША запатэнтавалі штучную сківіцу.

**10 чэрвеня**

**1793.** У Парыжы створаны першы ў свеце публічны заапарк.

**1907.** Браты Люм'ер вынайшлі спосаб друкавання каляровых фотаздымкаў, якія яны планавалі выкарыстоўваць для каляровай кінавытворчасці.

**1935.** У амерыканскім штаце Агаё паўстала першае ў свеце таварыства ананімных алкаголікаў.

**1936.** Быў учынены акт вандалізму над Рагвалодавым каменем. Яго знішчылі з дапамогай дынаміту.

**1942.** Нарадзіўся першы беларускі касманаўт Пётр Клімук.

**1997.** Памёр амерыканец Глін Вулф, які трапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса як мужчына, які найбольшую колькасць разоў браў шлюб. Ён рабіў гэта 29 разоў. Першы раз – у 18 гадоў, апошні – у 87 гадоў. Самы доўгі ягоны шлюб цягнуўся 7 гадоў, самы кароткі – 19 дзён.

**11 чэрвеня**

**1867.** Нарадзіўся французскі фізік Шарль Фабры. Ён адкрыў слой азону, які абараняе Зямлю ад негатыўнага ўздзеяння ультрафіялетавага выпраменьвання.

**1957.** У Фларыдзе адразу пасля запуску ўзарвалася міжкантынентальная ракета «Атлас».

**1992.** У Бостане памёр 103-гадовы М. Роб, апошні чалавек, які выжыў у катастрофе на «Тытаніку».

**12 чэрвеня**

**1227.** Так і не акрыяўшы пасля няўдалага падзення з каня, памёр Чынгісхан.

**1667.** Прыдворны лекар Людовіка XIV Жан-Батыст Дэні робіць першае ў свеце ўдалае пераліванне крыві 15-гадоваму падлетку.

**1867.** Утворана Аўстра-Венгерская імперыя.

**1942.** Абнародавана заява СССР, ЗША і Англіі аб адкрыцці Другога фронту. А днём раней ЗША і СССР падпісалі дамову аб узаемнай ваеннай дапамозе (ленд-лізе).

**1982.** Памёр заолаг Карл Фрыш, які выявіў, якім чынам праз адмысловы «танец» пчолы паведамляюць адна адной, дзе брац нектар.

**13 чэрвеня**

**323 да н. э.** У паходзе, перапіўшы віна, раптоўна памёр Аляксандр Македонскі.

**1887.** Нарадзіўся перуанскі авіятар Хорхе Чавез, які першым у свеце ў 1910 годзе пераадолеў на самалёце Альпы. Праўда, палёт гэты скончыўся трагічна: на самым фінішы самалёт раптам зваліўся на зямлю. Пілот памёр праз 4 дні. Ягоным імем названы аэрапорт у перуанскай сталіцы Ліме.

**1897.** Нарадзіўся Паава Нурмі, знакаміты фінскі бягун, шматразовы алімпійскі чэмпіён. 5 са сваіх медалёў ён заваяваў на адной Алімпіядзе 1924 году.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Астралагічны прагноз

**ад Веранікі Кудраўцавай на 7 – 13 чэрвеня**

*Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне будуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.*


**АВЕН.** Ужо шмат хто паспеў адзначыцца рознагалоссямі і прэтэнзіямі, засталося перажыць «нашэсце» дзяцей або каханага чалавека. Што зробіш, маеш шмат грахоў – трэба трымаць адказ. Калі не – прымайце перспектыўныя прапановы, якія толькі здаюцца выпадковымі.


**ЦЯЛЕЦ.** Вы спаўняеце ўрок жыцця – быць моцным гаспадаром. Момант крытычны: калі не патрапіце распарадзіцца капіталам, асабліва на родным абшары, то давядзецца тужэй зацягнуць пояс. Калі іспыт здадзены, то атрымаеце прыстойную ўзнагароду. Крыніцу фінансавання, хутчэй, трэба шукаць за мяжой ці ў высокіх кабінетах.


**БЛІЗНЯТЫ.** Калі здаецца, што вы адзін у гэтым жорсткім свеце, найпрасцей упасці ў дэпрэсію і пакінуць усё як ёсць. Але ж рост асобы не адбываецца ў цяплічных умовах або за кніжкай. У аўторак і сераду верагодна кампенсацыя вашых стратаў.


**РАК.** Някепска падумаць пра асабістую бяспеку, здароўе. Самы час ацаніць, наколькі партнёр або сужонак гатовы пра вас паклапаціцца, і зрабіць высновы. Некага вы недаацэньвалі, лічылі супернікам, а цяпер зможаце на яго абаперціся.


**ЛЕЎ.** Надыходзіць момант ісціны, калі паводле першай рэакцыі старонніх назіральнікаў вы мусіце ацаніць, наколькі правільна падабраны сябры, калегі, каманда. Або вы выйдзеце з ненадзейных стасункаў, або падасцеся з касцяком аднадумцаў у самастойнае плаванне.


**ПАННА.** Глядзіце, як бы не адабралі ўсю маёмасць, або каб пытанні кватэры, сваякоў не прымусілі забыцца на вельмі важныя справы. Цяпер патрабуецца надзвычай сур'ёзны падыход да жыцця, прафесіі. Не выключана, што крутая размова з вышэйстаячымі пра рэальныя заслугі вызначыць вашае далейшае становішча.


**ШАЛІ.** Важна вызначыць стратэгію ў асяроддзі ўплывовых асобаў. Або вы занадта мелка плавалі, або выявілі таленты глабальнага парадку – а значыць, можна чакаць узлётаў-падзенняў па іерархічнай лесвіцы. У аўторак і сераду ёсць сэнс узняць пытанне пра фінансаванне або аплату працы.


**СКАРПІЁН.** Толькі цяпер вы зможаце ацаніць, наколькі паспяхова прайшло пераадоленне паласы перашкодаў, якое надта ўжо зацягнулася, і ці ўправіліся вы з кіраваннем. Праз церні – да зорак, ці наадварот, гэта ўжо залежыць выключна ад сілы вашае асобы. У аўторак і сераду дысцыпліна і разлік выводзяць на слушную дарогу не толькі вас, але і цэлую каманду.


**СТРАЛЕЦ.** Калі вы занадта захапіліся сваімі інтарэсамі, то складанасцяў, разводаў у дачыненнях з людзьмі і сужонкам не пазбегнуць. Беражыце сэрца. Пры вашай адкрытай пазіцыі будзеце збіраць цікавыя прапановы, задзейнічаеце сябе ў сур'ёзных грамадскіх працэсах.


**КАЗЯРОГ.** Засталося ўзяць апошні рубеж, аддаць даўгі як у прамым, так і ў пераносным сэнсе слова. Без гэтага, без пераацэнкі свайго ладу жыцця і таго, перад кім ёсць сэнс «раскідаць перлы» ў жыцці, верагодныя праблемы са здароўем.


**ВАДАЛІЎ.** Падобна, што варта меней думаць пра сябе ці сяброў, а болей – пра каханага чалавека, дзяцей. Калі вы аддалі шмат намаганняў дзеля іх, то атрымаеце істотную аддачу. Творчым людзям някепска было б выбраць самыя значныя творы і заняцца іх практычным прасоўваннем у жыццё. На працы акрэсліваюцца прыемныя зрухі.


**РЫБЫ.** Рабіце высновы, наколькі моцны ваш дом і ці надзейныя блізкія людзі. У кожным разе ўбачыце рэальнасць: або вы канчаткова ўмацуеце сваё становішча ў сям'і, укарэніцеся на тым месцы, дзе жывяце, – або тробо будзе кардынальна мяняць жыццё. З аўторка каханню ўсе ўзросты пакорныя, толькі не выстаўляйцеся напаказ.




# Любоў да скульптуры

**У мінулы панядзелак на месцы бронзавай скульптуры работы Альберта Джакамецi супрацоўнікі Гамбургскага мастацкага музею ўбачылі драўляную копію.**

Як мяркуюць улады, скульптуру маглі ўкрасці падчас гарадской «Доўгай ночы музеяў», якая скончылася далёка за поўнач. Больш за 16 тысяч чалавек наведалі музей у той дзень, але паліцыя лічыць, што злачынцу ўдалося на нейкі момант застацца аднаму і падмяніць 32-сантыметровую статуэтку. Інакш кажучы, злодзей добра падрыхтаваўся і паказаў неблагое майстэрства ў разьбе па дрэву. Прызам за такую працу яму стала скульптура коштам больш як паўмільёна еўра – другая ў серыі з шасці, створаных швейцарскім скульптарам у 1956 годзе. Магчыма чатыры астатнія чакае такі ж самы лёс – апынуцца ў прыватных калекцыях.

**Эльза фон КУРЛОФ**


**Шведская сталіца адзначыла сваё 750-годдзе. У гонар гэтага свята ў Стакгольме адбыўся сапраўдны рыцарскі турнір. Пабачыць такое незвычайнае відовішча сабраліся дзесяткі тысяч шведаў і замежных турыстаў.**

# Эротыка танцаў

**Алена ЛАБАНАВА**

***Неяк мастацкая кіраўніца аднаго з сталічных танцавальных клубаў распавядала пра свайго суседа, які аднойчы ёй выдаў прыкладна такую фразу: «Не разумею, за што вы там у сябе грошы з людзей бераце? Вось я, напрыклад, калі нап'юся, і так вельмі файна танчу».***

Сапраўды, якія танга і фокстроты зраўнаюцца з той натуральнасцю ў танцы, якую можна пабачыць на нашых вечарынах? Праўда, апошнім часам ад такой натуральнасці ўсё больш цягне да эстэтыкі. І тады ўжо да любой пары, якая можа станчыць на вечарыне ці вяселлі павольны вальс, прасякаецца павагаю, а калі яны яшчэ дадуць рады і венскаму вальсу – дык гэта зусім поўнае захапленне.

А вальсу, дарэчы, ужо пад 250 гадоў, і ён па-ранейшаму папулярны па ўсім свеце. Ягоная назва пайшла ад нямецкага слова *«waltzen»* – кружыцца, аднак карані венскага вальсу трэба шукаць зусім не ў Вене. Венскім яго празвалі англічане, да якіх вальс прыйшоў з Аўстрыі, дзе ў часы Штраўса ён дасягнуў піку свай папулярнасці.

Тым, хто лічыць гэты танец занадта кансерватыўным, цяжка будзе даць веры, што ў 18-ым стагоддзі венскі вальс лічыўся не зусім прыстойным танцам. Шчыльныя абдымкі пары выходзілі за межы маральных дазволаў таго часу.

Такі самы лёс быў і ў вольты – танца, ад якога пайшоў вальс. Скакалі яго яшчэ ў 16 стагоддзі ў Італіі, аднак, нягледзячы на вялікую папулярнасць пры двары, французскі кароль Людовік XIII афіцыйна забараніў вольту за непрыстойнасць. За два стагоддзі вольта трансфармавалася ў танец, падобны да вальсу, і зноў вярнулася ў Францыю, цяпер ужо з вялікім поспехам.

Вальс «захапіў» усю Еўропу, і нават чапурыстым англічанам давялося яго нарэшце прызнаць. Калі ў Парыжы вальс танчылі ўжо ў 1775 годзе, то ў Англіі ягоныя прaцiўнікі з ім «змірыліся» толькі ў 1838-м, калі каралева Вікторыя афіцыйна запрасіла на дзень сваёй каранацыі аркестр Іагана Штраўса. Але пацiху англічане ўсё роўна яго перарабілі пад сябе: партнёры аддаліліся адзін ад аднаго на больш прыстойную адлеглaсць і танчылі яго павольней, чымсьці на кантыненце. Так з'явіўся павольны вальс, які яшчэ называюць англійскім ці вальсам-бастонам.

На пачатку 20-га стагоддзя пад грыфам «непрыстойна» ўжо апынулася танга. Гэты маўрытанскі па паходжанні танец дзякуючы аргенцінцам стаў вельмі папулярны па ўсёй Паўднёвай Амерыцы, а потым перабраўся і ў Еўропу. Тут французы ягоны аргенцінскі варыянт перарабілі згодна з сваімі традыцыямі, спрасцілі і пазбавілі былой эратычнасці. Аднак нават у такім выглядзе танга ўзрушыла каталіцкую царкву, і Папа Рымскі наклаў на яго сваё катэгарычнае вета. Танцу гэта не перашкодзіла, і ўжо ў 1910–1915 гадах без танга не праходзіў ніводны бал.




Забароны і кепская слава не абмінулі нават старую добрую польку. Але «заслуга» тут не самога танца, які ў 19-ым стагоддзі і без таго быў дужа папулярны ва ўсіх свецкіх дамах Еўропы, а хутчэй выкладчыкаў полькі. Гэты хуткі і вясёлы танец нарадзіўся ў чэшскай Багеміі, а ягоная назва – *pulka* – з чэшскай мовы перакладаецца як «палова» (палова кроку). У Празе полька стала папулярнай у 1835 годзе, а праз пяць гадоў яна атрымала трыумфальнае прызнанне ў вышэйшым свеце Парыжу.

Аднак з цягам часу цікавасць да яе пачала змяншацца, і выкладчыкі полькі, каб прыцягнуць у залі новых кліентаў, пачалі запрашаць да сябе ў памагатыя даўганогіх дзяўчат з парыжскай оперы. Пры такім выкладанні сама полька ўжо мала каго цікавіла, а манеры прыстойнасці ў танцзалях ігнараваліся. Гэта натуральным чынам сапсавала імідж самога танца да такой ступені, што многія маці проста забаранялі сваім дочкам скакаць на свецкіх вечарынах ні ў чым не вінаватую польку.

Можна толькі ўявіць, як тыя выхаваныя пані паставіліся б да дужа папулярных сёння ва ўсім свеце лацінаамериканскіх танцаў, у якіх практычна кожны рух мае эратычны характар. Найбольшай любоўю зараз у танцораў карыстаюцца румба і самба. Гэта танцы афрыканскіх неграў, якія танчылі сабе павольна *каля вогнішчаў*, як падказвала ім іхняя прырода, пакуль кансерватыўныя еўрапейцы спрачаліся аб прыстойнасці ці непрыстойнасці сціплых вальса і танга.

Цікавасць да лацінскіх танцаў першымі выявілі амерыканцы ў 1930-ых гадах, і ўжо праз дваццаць-дваццаць пяць гадоў стандартызавалі іх і прызналі афіцыйна. Вядомая шырокім масам па фільме «Брудныя танцы» румба – па сутнасці эратычны танец, у якім праз непрыстойныя рухі ўвасоблены ўвесь працэс дамагання мужчынам жанчыны, але з няўдалай для мужчыны канцоўкай. Тут ёсць і элементы спакушэння, калі жанчына дражніць мужчыну, а той дэманструе сваю мужнасць, але ў выніку жанчына кідае яго і ідзе да іншага партнёра. Прыкладна такі самы сэнс і ў самбы.

Зараз на гэтыя непрыстойнасці ніхто ўжо не зважае, і ва ўсіх школах танца «лаціну» вывучаюць нароўні з класічнымі бальнымі танцамі, бо ў праграму міжнародных чэмпіянатаў па спартовых бальных танцах яны ўваходзяць разам. У 1997 годзе Міжнародны алімпійскі камітэт прызнаў бальныя танцы алімпійскім відам спорту, і на Алімпіядзе 2008 году яны ўпершыню ўвойдуць у алімпійскую праграму.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА
**Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая.**
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі

тэл. **210-02-53**, факс **210-02-54**
Адрас для пошты: **220123, г.Мінск, а/с 103**
E-mail: **NPSvaboda@irex.minsk.by**
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г.
Заснавальнік Зміцер Жук. г. Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1.

Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА.
Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная зорка»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ № 1154
Нумар падпісаны ў друк 6/06/2002 (12:00) Тыраж – 6 895